

Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 3 (4906) 20 студзеня 2017 г.




Магнетызм пісьменніка 5



Крытычная сітуацыя 6



Гістарычны ракурс з анімацыяй 10



Магчымасці айчыннага тэкстылю 12



Да свята праз мастацтва 16

# ЯКАЯ ТЫ, БАТЛЕЙКА?

## Карані беларускага тэатра шукалі на «Нябёсах»

**У аблоках лунае маленькі анёл. На зямлі — двухпавярховыя скрыні-дамы, церамы, храмы. Паміж імі палягае прастора тэатральнага дзеяння, дзіцячага смеху, гульні ў лялькі. У мінулыя выхадныя завяршыўся III Міжнародны калядны фестываль батлеечных ды лялечных тэатраў «Нябёсы», які ладзіўся на базе Свята-Елісавецінскага манастыра.**



Фота Касцуся Дробава.

*Майстар-клас Алеся Лася на фестывалі «Нябёсы».*

Адраджэнне батлейкі для нашай краіны — з'ява адметная і не павінна застацца незаўважанай. Па-першае, батлейка — гэта ўзор унікальнага, выключна беларускага тэатральнага мастацтва. Беларускі тэатр — і лялечны, і драматычны — бярэ пачатак у народным калядным спектаклі пра жорсткага Ірада-цара, які загадаў забіць немаўлят у горадзе Віфлееме (Батлееме). Атрымліваецца, што вывучаць батлейку — значыць вяртацца да каранёў нашага тэатра. Мабыць, там можна знайсці адказы на актуальныя пытанні і нават парады для сучасных сцэнічных рашэнняў? Па-другое, інтарэс да батлейкі трапляе ў плынь цікавасці да ўсяго нацыянальнага. Зараз у беларусаў абуджаецца пашана да народнай творчасці, і старажытнае мастацтва, якое належыць менавіта нашай краіне, палягае ў прасторы агульнай зацікаўленасці. Наша батлейка мае свае аблічча, прычым не пазычанае з польскай шопкі ці рускага вяртэпу. Але ў чым яе асаблівасці?

— Перадусім беларускую батлейку адрознівае мова, вельмі цікавая і багатая, і не менш багатая драматургія, — падзяліўся меркаваннем этнограф, член Саюза мастакоў Беларусі і Польшчы Алесь Лось. — Нашыя батлейшчыкі пісалі надзвычай цікавыя сцэнарыі. Акрамя акцэнту на драматургічна-моўным аспекце, шмат увагі надавалася музыцы. Традыцыйна гралі на цымбалах, скрыпцы, дудзе. Старыя і прыгожыя царкоўныя спевы, што суправаджалі выступ, таксама дадавалі своеасаблівага каларыту. Існавала на Беларусі нават жывая батлейка — вандроўны тэатр, дзе ролі выконвалі жывыя людзі. Пачынаючы з посту і да самых Калядаў яны распісвалі ролі, шылі касцюмы, рэпеціравалі: рыхтавацца магла цэлая вёска. Потым артысты пачыналі вандраваць, пераязджаць з вёскі ў вёску. Напэўна, цікава было глядзець, як на адным возе сядзелі ў абдымку Смерць з Ірадам, салдаты ды Рахіль.

Працяг на 13-й стар. ▶

## Пункцірам

✔ Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Беларусі Леаніда Захлеўнага з 70-годдзем. «Высокі прафесіяналізм, унутраная культура, здольнасць данесці аўтарскую думку да шырокага гледача зрабілі Вашы творы ў выкананні заслужанага калектыву Рэспублікі Беларусь ансамбля народнай музыкі "Бяседа" папулярнымі ў народзе», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што Леанід Захлеўны будзе і ў далейшым уносіць важкі ўклад у нацыянальную скарбніцу айчыннага музычнага мастацтва, садзейнічаць папулярызацыі беларускай песні ў краіне і за мяжой.

✔ Прэзідэнт Беларусі павіншаваў народную артыстку Расіі Тамару Гвердцытэлі з юбілеем. «Сваёй яркай індывідуальнасцю і непаўторнай манерай выканання Вы заваявалі прызнанне не толькі ў Расіі, але і далёка за яе межамі. Любяць і высока цэняць Вашу творчасць і ў Беларусі», — гаворыцца ў віншаванні. Кіраўнік дзяржавы выказаў упэўненасць, што плённая дзейнасць Тамары Гвердцытэлі і далей будзе дарыць гледачам радасць і натхненне, садзейнічаць умацаванню супрацоўніцтва паміж нашымі краінамі на ніве культуры і мастацтва.

✔ Урад устанавіў пералік асабліва значных для беларускай культуры дзяржустаноў і стварае камісію па вяртанні культурных каштоўнасцей. Гэтыя і іншыя меры па рэалізацыі Кодэкса аб культуры выкладзены ў пастанове Савета Міністраў № 25 ад 13 студзеня 2017 года. У прыватнасці, установлены пералік дзяржаўных устаноў культуры, што маюць асаблівае значэнне для захавання, развіцця, распаўсюджвання і (або) папулярызацыі беларускай нацыянальнай культуры, рэарганізацыя і ліквідацыя якіх ажыццяўляецца са згоды Савета Міністраў. Гэта 12 аб'ектаў, у ліку якіх — Нацыянальны мастацкі музей, Нацыянальны акадэмічны Вялікі тэатр оперы і балета, Нацыянальны акадэмічны народны хор Рэспублікі Беларусь імя Г. І. Цітовіча.

✔ Турыстычны патэнцыял Беларусі абмеркавалі падчас першага пасяджэння беларуска-французскай рабочай групы ў Парыжы, паведамілі ў Пасольстве Беларусі ў Францыі. Пад старшынствам намесніка дырэктара дэпартамента кантынентальнай Еўропы Міністэрства замежных спраў і міжнароднага развіцця Францыі Стэфэна Маркізіо абмеркаваныя пытанні ў розных тэматычных блоках, у тым ліку і культурнага турызму. Асаблівая ўвага нададзена правядзенню ў Беларусі ў лістападзе двухдзённага семінара, дзе будзе абмяркоўвацца магчымасць арганізацыі генеральнай асамблеі Еўрапейскай федэрацыі гарадоў гісторыі Напалеона ў 2018 годзе.

✔ XXXII Міжнародны турнір па спартыўных бальных танцах «Віцебская сняжынка-2017» пройдзе 21 — 22 студзеня. Найстарэйшы танцавальны турнір Беларусі збярэ ўдзельнікаў больш як з 20 краін, упершыню — з Філіпін і Швейцарыі. Гэта танцоры сямі ўзроставых груп — ад дзяцей да юніёраў. Паводле галоўнага аўтара і заснавальніка турніру Наталлі Таўсташовай, спаборніцкая частка «Віцебскай сняжынкі» сёлета чакаецца асабліва відовішчнай.

✔ Генеральны прадзюсарскі цэнтр Белтэлерадыёкампаніі зрабіў запіс канцэрта фіналістаў VI Рэспубліканскага творчага радыёконкурсу «Маладыя таленты Беларусі». Пераможцы і прызёры конкурсу атрымалі магчымасць выступіць разам з сімфанічным аркестрам Белтэлерадыёкампаніі пад кіраўніцтвам галоўнага дырыжора Вячаслава Чарнуха-Воліча. Тэлевізійная версія канцэрта — сумесная праекта Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і тэлеканала «Беларусь 3» — гледачам прапануецца заўтра ў эфіры сацыякультурнага канала.

## У Саюзе пісьменнікаў Беларусі

# РЭКЛАМАВАЦЬ — РАЗАМ

**Пра вынікі мінулага года і планы дзейнасці Саюза пісьменнікаў Беларусі на 2017-ы распавялі старшыня грамадскай арганізацыі Мікалай Чаргінец, намеснік старшыні СПБ Анатоль Крэйдзіч і старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў падчас прэс-канферэнцыі ў Нацыянальным прэс-цэнтры.**

Летась прайшлі два творчыя форумы: II з'езд Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы і III (XIV) з'езд СПБ. На прэс-канферэнцыі Мікалай Чаргінец распавёў, што за апошнія гады творчыя магчымасці сяброў СПБ найбольш ярка праявіліся ў галіне кнігавыдання: з 2011-га па 2016-ы выйшла 1757 кніг. Гэта краязнаўчыя выданні, паэтычныя, празаічныя, драматургічныя творы для дзяцей і дарослых, крытыка, публіцыстыка.

СПБ актыўна працуе з творчай моладдзю, адкрываючы падчас сустрэч з айчыннымі пісьменнікамі ў школах, бібліятэках ды іншых установах культуры шмат новых імёнаў. Для маладых літаратараў рэгулярна ладзяцца творчыя конкурсы. Праводзяцца такія спаборніцтвы і сярод пісьменнікаў-прафесіяналаў. Так, па выніках аднаго з конкурсаў паэт-песеннік Іван Юркін, эстрадны спявак Анатоль Ярмоленка і кампазітар Алег Елісеенкаў разам атрымалі прэмію Саюзнай дзяржавы.

Адной з найбольш актуальных праблем сёння застаецца рэклама айчыннай кнігі. «Удзельнічаць у прапагандзе пісьменнікі павінны непасрэдна ў крамах, дзе прадаюцца іх кнігі», — падкрэсліў Мікалай Чаргінец.

Сёння літаратуры ўдзяляецца значна менш увагі, чым за савецкім часам. Для таго каб дапамагаць сябрам СПБ прапагандаваць уласныя кнігі, створаны Беларускі рэспубліканскі літаратурны фонд, здольны, па меркаванні Мікалая Чаргінца, выйсці на такі ўзровень, што зможа забяспечыць творцам сацыяльную падтрымку.

Саюз пісьменнікаў Беларусі, у прыватнасці, Мінскае гарадское аддзяленне, актыўна супрацоўнічае з пісьменніцкімі арганізацыямі Санкт-Пецярбурга, Цюмені, Калінінграда ды іншых расійскіх гарадоў. Пра гэта распавёў старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Анатоль Крэйдзіч дадаў, што вялікая суполка беларускамоўных аўтараў, якую ўзначальвае паэт Ян Чыквін, ёсць у польскім Беластоку. Акрамя таго, СПБ заключыў каля 30 пагадненняў аб творчым супрацоўніцтве з Кітаем, Казахстанам, Таджыкістанам, Туркменістанам, Расіяй ды іншымі краінамі.

**Яна ЯВІЧ**

## Духоўныя скарбы

# Спадчына Песняра — для ўсіх

**Не выклікае ніякіх сумненняў, што да 135-годдзя народнага песняра Беларусі Янкі Купалы будуць выходзіць новыя кнігі, пройдуць цікавыя святочныя імпрэзы. А першыя крокі ў айчынным кнігавыданні ўжо зроблены і з разлікам на масавага чытача. У выдавецтве «Мастацкая літаратура» пабачыў свет зборнік Я. Купалы «Расцвіла непагаслай зарой».**

Разам сабраны вершы, паэмы («Курган», «Бандароўна», «Магіла льва», «Яна і я», «Безназоўнае») і п'есы «Паўлінка» і «Раскіданае гняздо». Укладальнік паэт Віктар Шніп з вялікім густам, пачуццём замілавання да неўміручай паэзіі здолеў выбраць насамрэч лепшыя, найболей яркія творы класіка нацыянальнай літаратуры. Многія вершы чытаюцца як песні. Яны ж і ёсць сапраўды песні — мілагучныя, пранікліывыя, шчырыя, пакладзеныя на музыку словы. І хаця кніга выдадзена ў мяккай вокладцы, усё адно яна надзвычай цёплая, прыцягальная, здольная выклікаць эстэтычную асалоду. З такім зборнікам можна выпраўляцца ў дарогу, ехаць у камандзіроўку за межы Беларусі. Можна толькі падзякаваць «Мастацкай літаратуры» за ідэю масавага, адносна таннага выдання кнігі паэзіі і драматургіі народнага песняра. Дарэчы, адкрываецца кніга вершам «Мая малітва»: «Я буду маліцца і сэрцам, і думамі, / Распетаю буду маліцца душой, / Каб чорныя долі з мяцеліцаў шумамі / Ўжо больш не шалелі над роднай зямлёй. / Я буду маліцца да яснага сонейка, / Няшчасных зімой саграваць сірацін, / Прывета па збожных гуляючы гонейках, / Часцей заглядаці да цёмных хацін…»

А што да іншых кніжніцкіх планаў у дачыненні да юбілею Янкі Купалы, то ў «Мастацкай літаратуры» пабачыць свет кніга выбраных твораў класіка «Для тых, каго я люблю». А «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі» выдасць асобным томам персанальную энцыклапедыю «Янка Купала». Прыйдуць да чытача і іншыя кніжныя навінкі, прысвечаныя Янку Купалу.




**Сяргей ШЫЧКО**

### Мінскае гарадское аддзяленне СПБ запрашае:

**23 студзеня** — *у Школу юнага паэта пры Мінскім гарадскім аддзяленні СПБ (вул. Фрунзэ, 5-309). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**24 студзеня** — *на творчую сустрэчу з празаікам, старшынёй Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалаем Чаргінцом «Жыццё без кнігі — не жыццё» ў кнігарні «КнігаПоліс» (вул. Сурганава, 46). Пачатак а 15-й гадзіне.*

**25 студзеня** — *на творчую сустрэчу з паэтам Міхасём Пазняковым «Дарыць і адчуваць свята...» у камінную залу Палаца ветэранаў (вул. Я. Купалы, 21). Пачатак а 16-й гадзіне.*

**25 студзеня** — *на творчую сустрэчу з паэтэсай Ксеніяй Шаржановіч «Басанож па Сонцы...» у публічную бібліятэку № 20 (вул. Жукоўская, 9/1). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**26 студзеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам Уладзімірам Тулінавым у дзіцячую бібліятэку № 15 (вул. Слабадская, 27). Пачатак у 13.30.*

**26 студзеня** — *на творчую сустрэчу з пісьменнікам і бардам Аляксандрам Вашчанкам у межах адкрыцця літаратурнага клуба «Творчыя сустрэчы» пры публічнай бібліятэцы № 8 імя Максіма Багдановіча (вул. Даўгабродская, 12/2). Пачатак а 14-й гадзіне.*

**27 студзеня** — *у Дзяржаўны літаратурна-мемарыяльны музей Якуба Коласа (вул. Акадэмічная, 5) на пасвячэнне ў пісьменнікі маладых паэтэс Марыны Пашук (Наследнікавай) і Кацярыны Роўда. Пачатак у 16.30.*

### Брэсцкае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**25 студзеня** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «Адкрыццё» (кіраўнік — пісьменніца Зінаіда Дудзюк) у Брэсцкую цэнтральную гарадскую бібліятэку імя А. С. Пушкіна (бульвар Шаўчэнкі, 3). Пачатак а 17-й гадзіне.*

**27 студзеня** — *на пасяджэнне літаратурнага клуба «ПіНЧУКі» (кіраўнік — пісьменніца Марыя Ляшук) у Цэнтральную раённую бібліятэку імя Я. Янішчыц (г. Пінск, вул. Іркуцка-Пінскай дывізіі, 35). Пачатак а 17-й гадзіне.*

### Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**21 студзеня** — *на прэзентацыю кнігі вершаў Людмілы Кебіч «Рай для адзіноты» ў СШ № 38 г. Гродна (вул. Вішнявецкая, 14, актавая зала). Пачатак аб 11-й гадзіне.*

### Мінскае абласное аддзяленне СПБ запрашае:

**28 студзеня** — *на юбілейную вечарыну паэтэсы Марыі Шакун «Я краю роднага дачка» ў Валожынскі раённы цэнтр культуры (г. Валожын, пл. Свабоды, 3). Імпрэзу ладзіць народнае літаратурна-мастацкае аб'яднанне «Рунь» (кіраўнік — паэтэса Валянціна Гіруць-Русакевіч). Пачатак а 14-й гадзіне.*

Актуальна

# Класіфікацыя фільмаў — згодна з узростам

**Дзяржаўная ўстанова адукацыі «Інстытут культуры Беларусі» будзе займацца выдачай рашэнняў аб класіфікацыі фільмаў згодна з пастановай Савета Міністраў ад 12 студзеня 2017 года № 21 «Аб ажыццяўленні асобных адміністрацыйных працэдур у сферы культуры».**

Пасля прыняцця Кодэкса аб культуры ўзнікла неабходнасць скарэкціраваць шэраг пастаноў Савета Міністраў. Так, у адзіным пераліку адміністрацыйных працэдур «Дзяржаўная рэгістрацыя фільма і выдача дзяржаўнага рэгістрацыйнага пасведчання на фільм» будзе заменена на «Выдачу рашэння аб класіфікацыі».

Ажыццяўляць працэдуру будзе Інстытут культуры. Працэдура бясплатная і зойме 5 каляндарных дзён (ці 30 дзён у выпадку накіравання фільма ў іншыя экспертныя камісіі). Тэрмін дзеяння выдадзеных рашэнняў будзе неабмежаваным. Па словах прарэктара «Інстытута культуры Беларусі» Уладзіміра Аляксандравіча Макарэвіча, зараз ва ўстанове пачынаецца праца над новым напрамкам дзейнасці і фарміруецца каманда.

Таксама пастановай замацавана, што дазволы на эксплуатацыю кіназалы і кінаабсталявання будзе выдаваць раённы ці гарадскі выканкам або адміністрацыя раёна (дазволы выдаюцца бясплатна, а тэрмін іх дзеяння — 5 гадоў). Пастанова афіцыйна апублікавана на Нацыянальным прававым інтэрнэт-партале.

Згодна з пастановай Савета Міністраў, кіно без узроставых абмежаванняў будзе абазначана адпаведным індэксам «0». Індэкс «*» прадугледжаны для стужак, якія дазволена глядзець дзецям да 12 гадоў у суправаджэнні бацькоў або педагога (12+). Індэкс «**» сведчыць пра тое, што дзецям да 14 гадоў дазваляецца прагляд у суправаджэнні бацькоў або педагога (ён адпавядае ўзроставай катэгорыі (12+). Індэкс «***» дазваляе паказ фільмаў гледачам, старэйшым за 16 гадоў (16+). Індэкс «****» азначае, што фільм дазволены для паказу гледачам, старэйшым за 18 гадоў (18+). Індэкс «Э18» папярэджвае аб тым, што фільм з'яўляецца эратычным і дазволены для паказу гледачам, старэйшым за 18 гадоў (18+).

Кодэкс аб культуры сведчыць пра тое, што стужкі, вызначаныя для паказу на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь, павінны быць класіфікаваныя — іх будуць адносіць да адной з вышэйназваных катэгорый згодна з тэматыкай, жанрам, зместам і мастацкім афармленнем. Пастанова набудзе моц 3 лютага 2017 года.

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

Вернісаж

# КАРЫСНАЕ З ПРЫЕМНЫМ

## Рэпрадукцыі твораў «залатога перыяду» Густава Клімта ў гандлёвым цэнтры

**У Беларусь прывезлі рэпрадукцыі твораў аднаго з самых вядомых і дарагіх мадэрністаў дваццатага стагоддзя — аўстрыйскага мастака Густава Клімта. Выстаўка ладзіцца ў межах сусветнага турнэ «Густаў Клімт. 100 год без генія» ў нядаўна адкрытым у сэрцы сталіцы гандлёва-забаўляльным цэнтры «Галерэя Мінск».**

Усе карціны, прадстаўленыя ў экспазіцыі, узноўлены ў памеры арыгінала і ў аўтарскай тэхніцы знакамітага майстра, у тым ліку з выкарыстаннем сусальнага золата. У аснове праекта — творы так званага «залатога перыяду» майстра, калі ён пачаў працаваць з пазалотай, якая неверагодна падкрэслівае тонкасць, грацыёзнасць яго твораў. Залаты фон і візантыйская сімволіка натхнілі аўтара падчас падарожжаў па Італіі.

Многія мастацтвазнаўцы вывучалі тэхніку творчасці, мастацкую мову Густава Клімта, аднак зрабіць гэта было заўсёды складана: аўтар практычна не пісаў пра сябе, не расказваў пра стварэнне работ. Таксама ніколі не пісаў аўтапартрэтаў. У «Каментары на аўтапартрэт, які не існуе» ён адзначыў, што сам сябе як мастакі вобраз не ўспрымае, а ў якасці герояў карціны яму больш падабаюцца іншыя людзі, асабліва жанчыны. І сапраўды, колькі твораў ён прысвячаў жанчынам! Ён любіў, нават ствараў сваю міфалогію, праз якую мог маскіраваць вобраз рэальнага чалавека і гэтым жа згладжваў эратычную тэматыку кампазіцый.

Што датычыць выстаўкі, то тут вы таксама ўбачыце мноства жаночых сілуэтаў, прыгожых і грацыёзных. Будзе прадстаўлена рэпрадукцыя самай знакамітай карціны «Пацалунак», арыгінал якой набыты Сучаснай галерэяй (цяпер галерэя Бельведэр) у Вене. Сюжэт пяшчотнага кахання, шчырасці на працягу многіх год захапляе аматараў мастацтва. А вось прататып жанчыны, адлюстраванай на палатне, не вядомы да сённяшняга дня.



Густаў Клімт «Пацалунак».

Памяшканне для арганізацыі экспазіцыі выбрана невыпадкова: у такіх дастаткова людных месцах экспазіцыі, як правіла, заўсёды праходзяць паспяхова. Ды і наведвальнікам не трэба шукаць асобна час, каб прыйсці на выстаўку, — можна сумяшчаць вырашэнне бытавых спраў з эстэтычным задавальненнем. Уваход на выстаўку, праўда, платны, аднак для маленькіх дзяцей, студэнтаў і пенсіянераў прадугледжана зніжка.

**Вікторыя АСКЕРА**

# ЛіМ-каляндар

250 гадоў таму нарадзіўся Мацей Кажынскі (1767 — 1823), спявак, акцёр, рэжысёр і антрэпрэнёр, стваральнік першага пастаяннага тэатра ў Мінску (на польскай мове).

240 гадоў таму нарадзіўся Іосіф Аляшкевіч (1777 — 1830), беларускі жывапісец-партрэтыст.

220 гадоў таму была заснавана Мінская губернская друкарня. Існавала да 1917 года.

200 гадоў таму нарадзіўся Антон Юзаф Глінскі (1817 — 1866), беларускі фалькларыст, пісьменнік.

190 гадоў таму нарадзіўся Іван Трутнеў (1827 — 1912), беларускі і расійскі жывапісец, графік, педагог.

180 гадоў таму нарадзілася Каміла Марцінкевіч (1837? — пасля 1890), беларуская піяністка, кампазітар, педагог.

180 гадоў таму нарадзіўся Вікенцій Сляндзінскі (1837 —1909), беларускі мастак.

170 гадоў таму нарадзілася Зоф'я Тшашчкоўская (дзявочае Манькоўская) (1847 — 1911), польская і беларуская пісьменніца, перакладчыца.

130 гадоў таму нарадзіўся Язэп Мазуркевіч (1887 — 1937), беларускі празаік, крытык, краязнаўца.

17 студзеня — 100 гадоў з дня нараджэння Антона Бархаткова (1917 — 2001), беларускага жывапісца, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

18 студзеня 80 гадоў святкуе Нэлі Караткевіч, беларуская актрыса, заслужаная артыстка БССР.

20 студзеня — 125 гадоў з дня нараджэння Рыгора Шырмы (1892 — 1978), беларускага харавога дырыжора, фалькларыста, музычнага і грамадскага дзеяча, публіцыста, народнага артыста БССР, народнага артыста СССР.

20 студзеня — 95 гадоў з дня нараджэння Аляксандра Карпава (1922 — 1998), беларускага кінарэжысёра, акцёра, сцэнарыста, заслужанага дзеяча мастацтваў Казахстана, заслужанага дзеяча мастацтваў БССР.

22 студзеня 80 гадоў адзначае Юрый Зайцаў, беларускі графік, акварэліст, жывапісец.

Дайджэст

• Асветніцкі ролік для палякаў «20 фактаў пра Беларусь» пад кіраўніцтвам канала *The Emigrants* зняў Павел Супаненка. Сярод іншага згадваюцца Дзяржынская гара, БелАЗ, «*World of Tanks*» і падобныя да еўра манеты. Сярод вядомых палякам ураджэнцаў Беларусі названыя Вікторыя Азаранка, Саша Рыбак, Марк Шагал.

• Карціну «Невядомы салдат» па аднайменнай кнізе італьянскага пісьменніка Джыані Перэлі здымуць у Беларусі. Над стварэннем фільма працуюць кінематаграфісты з Беларусі, Італіі, Лівана, Расіі і Сірыі. Ужо ўвосень яго прадставяць на Венецыянскім кінафестывалі. Прадзюсар Анжэла Сконда адзначыў, што Беларусь была абраная ў якасці асноўнай здымачнай базы карціны, таму што «кінематаграфічная тэхніка і персанал падыходзяць пад еўрапейскія стандарты для вытворчасці такога фільма». Фільм распавядае пра барацьбу з тэрарызмам на прыкладзе гісторыі аднаго рускага чалавека італьянскага паходжання, які ў разгар сірыйскага ваеннага канфлікту трапіў у палон. Асноўныя здымкі запланаваныя на красавік-май. Яны пройдуць у Беларусі, Сірыі і Чачні (Расія). На тэрыторыі Беларусі будуць здымацца эпізоды, звязаныя з беларускай і расійскай прыродай і архітэктурай. У здымках возьмуць удзел беларускія акцёры, асноўны кастынг пройдзе ў лютым. Бюджэт фільма складае 5,5 млн еўра. Фільм плануюць зняць у вельмі кароткія тэрміны, і гэта магчыма дзякуючы сучаснаму абсталяванню, якое дазваляе адначасова здымаць і манціраваць, падкрэсліў рэжысёр стужкі Клаўдыё Малапонці.

• Стваральнік кінасагі «Зорныя войны» Джордж Лукас плануе адкрыць уласны музей кіно, якому дасць назву «Музей мастацтва апавядання». Будынак будзе знаходзіцца ў Лос-Анджэлесе, у паркавай зоне на поўдні мегаполіса. Цікава, што першапачаткова музей планавалася размясціць на беразе возера Мічыган у Чыкага, аднак праект не спадабаўся мясцовым экалагічным актывістам. Мэр Лос-Анджэлеса Эрык Гарсэці прызнаўся, што гарадскія ўлады былі вельмі зацікаўлены ў атрыманні гэтага праекта. Фінансаваць будаўніцтва будзе сам Лукас, і гэта будзе каштаваць яму больш за мільярд долараў. Канцэпцыя музея прадугледжвае актыўнае выкарыстанне візуальных вобразаў: мноства фатаграфій, відэаролікаў і фільмаў — тысячы прадметаў, адабраных з асабістай калекцыі Лукаса. У музеі таксама выстаўляць арыгінальныя прадметы, якія выкарыстоўваліся ў працэсе здымак «Зорных войнаў» і іншых легендарных галівудскіх фільмаў, прыкладам, «Чараўніка краіны Оз» і «Касабланкі». Акрамя рэквізіту са здымачных пляцовак, наведвальнікам пакажуць работы Рэнуара і Дэга, а таксама амерыканскіх мастакоў Максфілда Пэрыша і Нормана Рокуэла. Як патлумачыў Лукас, у сваім музеі ён хоча размясціць мяжу паміж высокім мастацтвам і масавай культурай.

Гродзенскае абласное аддзяленне СПБ выказвае шчырыя спачуванні загадчыку кафедры беларускай літаратуры ГрДУ імя Я. Купалы, літаратуразнаўцы, паэтэсе Аліне Эдмундаўне Сабуць з прычыны напаткаўшага яе гора — смерці БАЦЬКІ.

# Алесь Суша — Алесь Карлюкевіч:

# «ЦІ ІНТЭГРАВАНЫ СКАРЫНА Ў НАША ЖЫЦЦЁ?»

**У другой частцы размовы пра Францыска Скарыну абраны досыць важкі аспект для ўсведамлення постаці першадрукара: наколькі ён прысутнічае ў назвах, наколькі шырока даходзіць да звычайных людзей само імя Скарыны.**

**Алесь Карлюкевіч: «Давайце пагаворым гэтым разам пра тое, наколькі скарынаўская тэма прысутнічае ў паўсядзённым жыцці нашага грамадства, нашай краіны... І першае пытанне, якое я хацеў бы прапанаваць для разгляду, наступнае: як вы асабіста лічыце, а ці патрэбен Беларусі музей Францыска Скарыны? І дзе, на базе якой установы яго можна было б арганізаваць?»**

**Алесь Суша:** «Я вам нават скажу, што такі музей ужо існуе. Нават два! Але пра гэта мала хто з беларусаў ведае. І на тое свае прычыны. Адзін з музеяў знаходзіцца ў Лондане, у Вялікабрытаніі, і называецца Беларускай бібліятэкай і музеем імя Ф. Скарыны. За апошнія дзесяцігоддзі гэта ўстанова стала сапраўдным духоўным і інтэлектуальным цэнтрам беларусаў за мяжой, але ўласна ў Беларусі яна вядомая далёка не кожнаму. Да таго ж музейнай экспазіцыі, прысвечанай беларускаму першадрукару, яго жыццю і дзейнасці, там няма. Гэта бібліятэка з найбагацейшымі беларусазнаўчымі зборамі, якая валодае таксама артэфактамі скарынаўскай тэматыкі.

Другая падобная структура працуе ўжо больш як 20 гадоў на базе Гомельскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Ф. Скарыны. Завецца яна музеем-лабараторыяй Францыска Скарыны і з'яўляецца структурным падраздзяленнем дадзенай ВНУ. Там сабрана вялікая калекцыя ў першую чаргу публікацый і мастацкіх твораў, прысвечаных нашаму першадрукару, а таксама некаторыя іншыя матэрыялы. І ўсё ж статус лабараторыі-музея як мага лепш адлюстроўвае рэальны фармат яе дзейнасці: гэта ўніверсітэцкі музей, арыентаваны найперш на вучэбны працэс і даследчую працу студэнтаў і выкладчыкаў навучальнай установы. Экспазіцыя музея-лабараторыі пакуль не можа прэтэндаваць на паўнацэнны і ўсеахопны паказ жыцця і кнігавыдавецкай дзейнасці Ф. Скарыны. Да таго ж рэгіянальнае размяшчэнне паўплывала на тое, што яе дзейнасць пакуль мала вядомая ў іншых рэгіёнах Беларусі і за мяжой.

Дзеля справядлівасці адзначу, што абедзве гэтыя структуры маюць вялікія планы свайго развіцця і дзейнасці на гэты, юбілейны, год. Аднак вымушаны канстатаваць, што паўнацэннага публічнага музея Францыска Скарыны ў Беларусі сёння няма, а наяўнасць яго проста відавочная. На жаль, беларускі асветнік і першадрукар памёр ужо вельмі даўно, і не засталося вядомых яго нашчадкаў, якія маглі б парупіцца пра стварэнне музея, як гэта часта бывае з іншымі творцамі. І ўсё ж значэнне яго дзейнасці і багацце спадчыны настолькі вялікія, што стварэнне прысвечанага яму музея ці нават цэлага інстытута (па аналогіі з Інстытутам Гётэ ці Інстытутам Канфуцыя) — гэта справа гонару і наш абавязак.

Такая ўстанова павінна, на мой погляд, размясціцца ў Мінску і мець свае аддзяленні ў іншых абласных цэнтрах і Полацку, а таксама (выходзячы з замежнага досведу) можа мець прадстаўніцтвы за мяжой.

Калі казаць пра месца, то гэта можа быць як асобны будынак, так і тэрыторыя адной з наяўных устаноў. Гіпатэтычна, хаця гаворка пра гэта пакуль не ішла, яго магла б прыняць і Нацыянальная бібліятэка Беларусі, дзе ёсць выданні Скарыны і яго паслядоўнікаў, дзе ўжо ёсць свой Музей кнігі, дзе маецца багаты дапаможны фонд і дзе працуюць дасведчаныя ў тэме спецыялісты».

**А. К.: «Дарэчы, і помнікаў беларускаму першадрукару магло б быць, пагадзіцеся, болей... Мемарыялізацыя знакавага персанажа айчыннай культуры, айчыннай гісторыі праз скульптурныя выявы, манументальную прапаганду — хіба гэта не шлях да выхавання нацыянальнай свядомасці? Ці, на крайні выпадак, — адзін са шляхоў...»**

**А. С.:** «Цалкам згодны. Усталяванне помнікаў і мемарыяльных дошак — адзін з асноўных шляхоў ушанавання найважнейшых асоб у гісторыі і культуры розных краін. Нашы суседзі робяць у гэтым кірунку шмат. Напрыклад, па падліках украінскіх калег, помнікаў і мемарыяльных дошак у гонар Тараса Шаўчэнкі ў свеце налічваецца больш як тры тысячы (!). Помнікі Аляксандру Пушкіну таксама можна сустрэць па ўсім свеце. І гэтак далей. Скарына, як і іншыя беларускія творцы, на гэтым фоне ўшанаваны значна больш сціпла: літаральна некалькі дзясяткаў падобных аб'ектаў. Прычым за мяжою — лічаныя адзінкі: помнікі ў Празе і Калінінградзе, мемарыяльныя дошкі ў Вільні, Падуі, Празе, Лондане... І вінаваціць некага ў такой несправядлівасці бессэнсоўна. Ніхто, апрача нас саміх, не будзе займацца прадстаўленнем беларускай краіны і нашай культуры за мяжою. Гэта наш абавязак. Гэта наша будучыня».

**А. К.: «Гарадская тапаніміка... Вуліцы з імем Скарыны... Іх таксама, здаецца, не так і шмат. Вось бы сёлета мясцовыя ўлады тых ці іншых гарадоў праявілі рашучасць і прынялі рашэнне аб перайменаванні чарговай Сонечнай, Рачной, Лугавой у вуліцу Францыска Скарыны!.. Праўда, на тое яшчэ патрэбна і шырокая грамадская ініцыятыва...»**

**А. С.:** «Бясспрэчна! Абсалютна разумная ідэя. Культурная прастора вакол нас фарміруе грамадскую свядомасць, стварае пэўныя арыенціры, замацоўвае каштоўнасці. Менавіта таму ва ўсім свеце распаўсюджаная практыка — найменне вуліц і праспектаў, плошчаў і бульвараў, набярэжных і завулкаў у гонар нацыянальных герояў, выбітных дзяржаўных і культурных дзеячаў мінулага. На вялікі жаль, Беларусь дагэтуль застаецца краінай, якая недастаткова выкарыстоўвае названы рэсурс.

Вялікая колькасць (а месцамі пераважная большасць) вуліц нашых гарадоў і мястэчак названа імёнамі дзеячаў, якія амаль ніяк не звязаны з нашай краінай і ніколі не бывалі на нашай зямлі. Нешта сваё можна знайсці хіба наводшыбе, на перыферыі. Імёнамі беларускіх дзеячаў пачалі называць вуліцы ў новых аддаленых ад цэнтра раёнах. У выніку пра іх мала хто ведае. Нават зададзенае вамі пытанне пра гэта сведчыць».

**А. К.: «Карыстаўся, магчыма, інфармацыяй папяровых гадоў... Хаця і з даведнікаў, энцыклапедый грунтоўных...»**

**А. С.:** «На самай справе імем Францыска Скарыны названы вуліцы, завулкі, плошча, праспект і нават набярэжная ў многіх гарадах Беларусі. Мне такіх вядома некалькі дзясяткаў: у Мінску, Брэсце, Віцебску, Гомелі, Магілёве, Полацку, Браславе, Бялынічах, Ваўкавыску, Горках, Дзяржынску, Дзятлаве, Драгічыне, Жабінцы, Жодзіне, Жыткавічах...»



*Мемарыяльная дошка ля Пражскай ратушы. Менавіта тут Скарына пераклаў Біблію.*

**А. К.: «Згодзен, не так і мала...»**

**А. С.:** «Але ў пераважнай большасці выпадкаў гэта далёка не цэнтральныя вуліцы. За межамі нашай краіны гэта і ўвогуле зусім адзінкавыя прыклады. Я ведаю толькі невялікую вуліцу Скарыны ў Вільні (Вільнюсе). Але з гэтым горадам Скарына быў непасрэдна звязаны, таму самі віленчукі і звярнуліся да яго імя. А што мы зрабілі? Калі мы самі без лішняга сораму прапаноўвалі назваць імем Скарыны вуліцу ў Празе, Падуі, Маскве, Смаленску, Пецярбургу, Бранску, Калінінградзе, Кіеве, Чарнігаве, Львове, Варшаве, Беластоку, Даўгаўпілсе, Браціславе, Берліне і г. д.? У выніку атрымліваецца дзіўная сітуацыя, калі мы маем небеларускія імёны на шыльдах нашых гарадоў і амаль не маем такога ў адказ у выпадку замежнай гарадской тапанімікі. Мне падаецца, што такую сітуацыю трэба мяняць. Гэта ніколькі не змяншае нашу павагу да іншых народаў і культур, але ж і сябе трэба хоць колькі-небудзь паважаць. Калі мы хочам, каб самі беларусы не задаваліся пытаннем, ці мы чаго вартыя і ці ў нас ёсць чым ганарыцца».

**А. К.: «Лічу, што не так і шмат у нас масавай, папулярнай літаратуры пра беларускага першадрукара... Хіба не патрэбен турысцкі буклет, напрыклад, з такой назвай, такім зместам — «Шляхамі Францыска Скарыны»?..»**

**А. С.:** «Вельмі патрэбен. Пытанне развіцця турызму — адно з найбольш актуальных для пакуль мала вядомай замежнікам (а значыць, патэнцыяльна вельмі прывабнай) краіны ў цэнтры Еўропы. Падобны дапаможны інфармацыйны матэрыял вельмі патрэбен. Як у друкаванай, так і ў лічбавай форме. У выглядзе буклетаў, карт, даведнікаў, дапаможнікаў, віртуальных тураў, інтэрактыўных гульняў-падарожжаў і г. д. А яшчэ павінны быць у наяўнасці распрацаваныя турыстычныя маршруты, узятыя на ўзбраенне турыстычнымі кампаніямі. Павінна быць магчымасць звярнуцца ў пэўнае агенцтва з жаданнем праехаць па мясцінах, звязаных з жыццём і дзейнасцю Скарыны, — як у Беларусі, так і за мяжою. За апошнія два гады да нас звярталіся прадстаўнікі асацыяцыі экскурсаводаў і гідаў-перакладчыкаў, а таксама некалькіх турыстычных агенцтваў з просьбамі аб дапамозе ці прапановамі супрацоўніцтва ў гэтым кірунку. Ведаю, што некалькі такіх тураў адбудзецца, але ці стануць яны сістэматычнымі — вялікае пытанне».


*Помнік Францыску Скарыну ў Лідзе (аўтар — Валерый Янушкевіч).*

# ЯК ВЕЖА РАНІШНЯЙ РАСЫ

**Пісьменнік, які адзначыў 70-годдзе, звычайна прыходзіць да гэтага юбілею з важкімі мастакоўскімі набыткамі. Пры ўмове, канечне, калі ён сапраўдны творца. Менавіта такім творцам і з'яўляецца паэт, празаік, дзіцячы пісьменнік, публіцыст Ганад Чарказян. На яго рахунку каля 30 кніг, сотні публікацый у перыёдыцы. Як кнігі, так і асобныя творы выдаюцца ў перакладзе на беларускую і рускую мовы, хоць і піша ён па-армянску і па-курдску.**

Ды такі ўжо лёс мудрага, свабодалюбнага, гордага курдскага народа, які так і не змог набыць сваю дзяржаўнасць. Няма дзяржаўнасці — няма і газет, часопісаў, выдавецтваў. Таму і прыходзіць Ганад Чарказян да чытача ў перакладах. Затое гэта нязменнае свята для прыхільнікаў таленту Ганада Бадрыевіча. Яны даўно пераканаліся: тое, што напісана ім, заўсёды высокай мастацкасці, вабіць глыбінёй пранікнення ў жыццё.

Талент Г. Чарказяна па-ранейшаму яркі і жыццядайны, прагавіты да новых мастакоўскіх адкрыццяў. Жывучы, як і ўсе мы, у дні сённяшнім, смела ўглядаецца ў дзень заўтрашні. Разам з тым і азіраецца, каб высветліць, ці так жыў, як трэба, ці не схібіў у чымсьці па пакручастых сцяжынах лёсу. Многага дасягнуўшы, адначасова з'яўляецца жаданне звярнуцца да таго, што некалі, даўным-даўно, асвяціла цябе зыркім святлом, сагрэла ды так азарыла, што не забываецца, дый ніколі не забудзецца. Здагадваецеся, пра што гаворка? Вядома ж, пра каханне.

Асабіста мне вельмі імпануе верш Г. Чарказяна «Берыван», змешчаны ў аднайменнай кнізе ягонай выбранай паэзіі. Гэты верш адначасова даў назву і аднаму з яе раздзелаў, у якім прадстаўлены творы, напісаныя паэтам у 1995 — 2015 гадах, але ў раней выдадзеных Г. Чарказянам кнігі яны не ўваходзілі. Цяпер, сабраныя разам, вершы склалі кнігу. У гэтай кнізе (маю на ўвазе ўвесь аднатомнік) ёсць адна вызначальная рыса: яна цалкам пра каханне.

Мілае, цудоўнае жаночае імя — Берыван. За ім праглядваецца вобраз той, якая і на часавай адлегласці кліча да сябе. Яна прыходзіць да лірычнага героя ў сне і не дае яму спакою... Усяго адзін верш, але і яго дастаткова, каб упэўніцца, наколькі арыгінальны Г. Чарказян-паэт.

Дарэчы, каб пераканацца, які ён цудоўны навеліст, хопіць апавядання «Белая вежа». У ім, як і ў шмат якіх сваіх празаічных творах, аўтар удала выкарыстоўвае элементы прытчы. Гэта дазваляе яму паспяхова вырашаць не толькі канкрэтныя мастакоўскія задачы. Не менш паспяхова робіць сур'ёзныя абагульненні як чалавечага быцця, так і ўдасканалення роду людскога, мадэлюючы ўнікальныя сітуацыі, калі адштурхоўваецца ад нейкага важнага зыходнага пункта. Ім у апавяданні «Белая вежа» з'яўляецца збудаванне. Спачатку, праўда, была плаціна. Яна ў апавяданні — яшчэ і ўвасабленне адзінства народаў, той маналіт, які збліжае і злучае іх. Адна цягам часу плаціна пачала разбурацца. А сярод народаў-сяброў з'явіліся рознагалоссі, чаму не маглі не радавацца «добразычліўцы» за мяжой.

Усё стала на сваё месца, калі пабудову вежы ўзначаліў Іскандэр. Прыняўшы ў свае рукі чароўны меч, ён шчыра прызнаецца супляменнікам: «Я хочу построить башню счастья, высокую, белую, как облака, чтобы с её высоты каждый мог взглянуть на родную страну, восхититься красотой её природы, трудолюбием её людей». Белая вежа — гэта і сімвал дзяржавы, у якой адбываецца дзеянне і якая называецца Белай краінай. Іскандэр, бачачы, як паспяхова завяршаецца будаўніцтва, не ўтрымліваецца, заўважае, што ўзводзіцца не проста Белая вежа, а «Башня Утренней росы». Гэтыя словы Іскандэра набываюць асабліва значны сэнс. Тое, пра што расказаў Г. Чарказян у гэтым творы, сугучна і памкненням беларускага народа. Белая вежа — гэта і сімвал, няхай сабе і не афіцыйны, Рэспублікі Беларусь. Дарэчы, імя Іскандэр па-беларуску гучыць як Аляксандр. Несумненна, што такое імя свайму герою пісьменнік узяў невыпадкова.

Паралелі з краінай, якая стала яго другой Радзімай, аўтар не можа не праводзіць. Ва ўспамінах «Незабыўны Пятрусь Броўка» прызнаецца: «Думаю, што ў маім жыцці мне пашанцавала па-сапраўднаму двойчы. Першы раз — калі сустрэўся з беларускай дзяўчынай, якая стала маёй жонкай. Другі — калі сустрэўся і пазнаёміўся з Петрусём Усцінавічам Броўкам». Пазней яму шмат дало знаёмства з Рыгорам Барадуліным, з кім пасябраваў, з Алегам Лойкам дый іншымі пісьменнікамі. Адбылося гэта невыпадкова. Чалавек шчыры, адкрыты, Ганад Бадрыевіч, як магніт, прыцягвае да сябе. Таму на давер хочацца адказаць даверам, на спагаду — спагадай.

Першая паэтычная кніга Г. Чарказяна «Прочность» (дарэчы, ён умее даваць сваім дзецішчам вельмі дакладныя, запамінальныя назвы: за «Прочностью» былі «Цвет доброты», «Пространство и время», «Обожжённые жаворонки» і г. д.) выйшла ў 1980 годзе. Благаславіў яе незадоўга да сваёй смерці П. Броўка. Разнасцежанасць душы Ганада Бадрыевіча прыцягвае да яго і многіх перакладчыкаў, сярод якіх Глеб Артханаў, Рыгор Барадулін, Казімір Камейша, Ала Канапелька, Барыс Крывялевіч, Валерый Ліпневіч, Уладзімір Марук, Мікола Мятліцкі, Валянцін Тарас, Фёдар Яфімаў…

Кніга «Прочность» пабачыла свет з прадмовай П. Броўкі. Пятрусь Усцінавіч пісаў: «Аптымістычнае светаадчуванне, свежасць і сіла пачуцця, глыбіня і самастойнасць думкі арыгінала пераканаўча, творча ўзноўлены на рускай мове маладым паэтам Валерыем Ліпневічам. Тут менавіта той выпадак, калі блізкасць паэтычных прынцыпаў аўтара і перакладчыка абумовілі з'яўленне арыгінальнай кнігі, якая будзе з цікавасцю сустрэта самым шырокім чытачом».

У сваіх спадзяваннях П. Броўка не памыліўся. На кнігу з'явілася некалькі водгукаў, усе не проста станоўчыя, а на дзіва добразычлівыя. З верай у талент Г. Чарказяна, са спадзяваннем, што малады паэт у далейшым парадуе новымі творчымі адкрыццямі. Так і адбылося ў сапраўднасці. Асабліва важкімі набыткі Г. Чарказяна-паэта сталі ў жанры чаргаві. У перакладзе з курдскай мовы гэта азначае «чатыры крокі». Адну са сваіх кніг ён так і назваў. У яе ўвайшло ажно 441 (калі я не памыліўся ў падліках) чатырохрадкоўе. Гэтая кніга — як глыток чыстага горнага паветра. Яго ж ніколі шмат не бывае.

Тое ж датычыць і апавяданняў. Філасафічнасць у іх — гэта магчымасць убачыць, паказаць, раскрыць жыццё ў самых розных праявах. Аднак не толькі жыццёвасць, а значыць, і праўдзівасць вылучае празаічныя творы Г. Чарказяна. Шмат у якіх з іх моцны і філасофскі патэнцыял, асабліва ў тых апавяданнях, што па жанры набліжаюцца да прытчы. Глыбокі тэкст, шматзначны падтэкст у апавяданні «Ружы», галоўны герой якога дзед Грышка штодня палівае ружы, якія пры ўзвядзенні новага дома аказаліся поруч з катлаванам. Вартаўнік спачатку не разумее яго, але праходзіць час, і яны з дзіўным наведвальнікам знаходзяць агульную мову. Калі ж ён перастаў з'яўляцца, ідзе шукаць. Ад старой жанчыны даведваецца, што гэта быў дзед Грышка, а на месцы цяперашняга катлавана «фашысты знішчылі ўсю яго сям'ю, суседзяў за тое, што яны хавалі ў сябе хлопчыка-габрэя», а пачвар дзед Грышка яшчэ дзесяць гадоў таму. Вартаўніку нічога не застаецца, як пагадзіцца з такім сцвярджэннем: «Можа быць, у нашым жыцці ўсё можа быць, і не толькі такое... Мы з вамі гэта добра ведаем... Як бы пражыць так, як жыў дзед Грышка? Каб з таго свету вярнуцца...»


Фота Кастуся Дробава.

Вяртанне дзеда Грышкі з небыцця — гэта вяртанне дабра, якое ён рабіў. Ён не мог не вярнуцца, бо быў пераканаы, што «ўсе людзі могуць быць родзічамі», а калі ёсць такая ўпэўненасць, то з фізічнай смерцю чалавек не знікае, а здатны жыць сярод людзей, бо мусіць працягваць рабіць дабро, з якім жыў і без якога не ўяўляў сабе жыцця. Ружы, якія так любіў дагледзець дзед Грышка, — не толькі памяць пра тых, хто загінуў. Яны і ўвасабленне прыгажосці, а паколькі, як сцвярджаў класік, прыгажосць уратуе чалавецтва, то гэта і ўвасабленне самога чалавека, ягоных добрых памкненняў. А калі хочаш жыць годна, то перадусім мусіш быць чалавекам.

Гэта меў на ўвазе і мудры Карахан, калі ў апавяданні «У гасцях» казаў свайму старэйшаму сыну: «Паслухай мяне, сынок, ты павінен гэта запомніць на ўсё жыццё: чалавекам трэба заставацца заўсёды. Як бы там ні было, што б ні здарылася. Калі ты з раніцы сустрэў некага і пажадаў яму дабра, значыць, і табе ад некага пярэйдзе тое дабро. Усё ў жыцці ўзаемазвязанае... Каб атрымаць — трэба ўмець аддаваць...»

Упэўнена абжывае Г. Чарказян і жанр рамана, пра што засведчылі такія яго творы, як «Багряный закат», «Не умирай раньше смерти» (іншая назва — «Опередить смерть») і «Горький запах полыни». Пра кожны з гэтых раманаў можна гаварыць шмат: уражвае глыбокае веданне аўтарам жыцця пачынаючы ад глыбінных працэсаў сучаснасці і да ўнутранага свету канкрэтнага чалавека, якому, як кажуць, нішто чалавечае не чужое. Навідавоку філасофская напоўненасць усяго, пра што ён піша. І, канечне, нельга не адзначыць дынамізм дзеяння, часам такую закручанасць сюжэта, што не адарвацца. Але гэта не так званае лёгкае чытво, а глыбока псіхалагічная проза, у якой усё дасканала выверана. Г. Чарказян ні на хвіліну не забывае, што ўклаў у вусны героя першага са сваіх раманаў Андрэя Храбрага: «Па вялікім рахунку, ад кожнага пісьменніка застаецца нямнога. Тое сапраўды новае і выпакутаванае, што ён паказаў свету». Гэтым напоўнены і апошні па часе напісання раман пісьменніка, галоўны герой якога Глеб Беразовік прайшоў усе кругі афганскага пекла.

Раман «Горький запах полыни» — твор дынамічны. У кампазіцыйную пабудову яго ўкліньваюцца вострыя сюжэтныя павароты. Аднак, несумненна, гэта раман яркіх, запамінальных характараў, якія падаюцца Г. Чарказянам у залежнасці ад творчай задумы ці то ўзбуйнена, ці то эпізадычна. Тым не менш яны ў аднолькавай ступені запамінальныя, бо ва ўсім адчуваецца рука майстра, які кожны характар раскрывае так, што выразна бачыш чалавека з усімі ягонымі адметнасцямі. Пры гэтым пісьменнік дакладна перадае афганскі каларыт, з павагай ставіцца да тых традыцый афганскага народа, якія нельга не вітаць, але разам з тым праз успрыманне галоўнага героя твора не адмаўляе і мясцовых перажыткаў.

«Горький запах полыни» — гэта твор, якога так неставала беларускай літаратуры. Не адмаўляючы значнасці ўсяго, што ўжо з'явілася на афганскую тэму, нельга не адзначыць, што Г. Чарказян закрануў такі аспект, на які раней калі і звярталася ўвага, дык як бы мімаходзь. Ніхто да яго так усебакова і праўдзіва не расказваў пра беларускіх юнакоў, якія, выконваючы свой інтэрнацыянальны абавязак у Афганістане, трапілі ў палон. Канечне, на дзіва праўдзіва ўсё гэта ўзноўлена ў знакамітым рамане Мікалая Чаргінца «Сыны». Але ў ім савецкія салдаты гінуць, падараўшы ваенную базу. Гэта, безумоўна, подзвіг. Але інакш як подзвігам нельга ўспрымаць і жыццё Глеба Беразовіка сярод афганцаў. 18 гадоў, праведзеных сярод тых, хто дагэтуль бачыў у ім ворага, — гэта не толькі барацьба за выжыванне, імкненне прыстасавацца да новых, чужых абставін. Апроч усяго, гэта — і здатнасць не зганьбіць высокага імя грамадзяніна той краіны, у якой ён нарадзіўся і якой назаўсёды застаўся верны.

Ганад Чарказян, упэўнена працуючы ў розных жанрах, не навічок і ў дзіцячай літаратуры. З творамі для маленькіх ён рэгулярна выступае і ў перыядычным друку. Адметнасць мастакоўскага почырку гэтага знакамітага пісьменніка ў тым, што ён, добра ведаючы псіхалогію тых, для каго піша, стараецца размаўляць з дзецьмі як з дарослымі, а гэта значыць, што ніколі не апускаецца да голага маралізатарства, але, разам з тым, умее ў сваіх казках (а гэта любімы жанр Г. Чарказяна — дзіцячага пісьменніка) узнімаць важныя праблемы. Прытым ён глядзіць на навакольны свет, на насельнікаў яго вачыма тых, каму і адрасуе свае творы.

Напісанае Г. Чарказянам — свайго роду вежа ранішняй расы. На мацерыку сучаснай беларускай літаратуры яна — трывалае «збудаванне», якое пастаянна ўмацоўваецца, бо з'яўляюцца новыя творы таленавітага пісьменніка.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

# Калі ў пашане талерантнасць...

## Агляд часопіснай крытыкі

**Вынікі літаратурнага года — гэта, як правіла, пералік адметных выданняў ці вартых увагі літаратурна-мастацкіх публікацый. Больш глабальнае асэнсаванне здабыткаў магчымае падчас вызначэння намінантаў і лаўрэатаў літаратурных прэмій. Вядомыя крытыкі — асобы, дастаткова ўплывовыя ў гэтых справах, але самі па сабе набыткі літаратурнай крытыкі застаюцца ў глыбокім цені. Па-першае, таму, што зборнікі крытычных артыкулаў выдаюцца гады ў рады (а няма кнігі — няма і падагульнення), па-другое, таму, што крытыцы адводзіцца другараднае месца ў літаратурным працэсе. Зрэшты, выправіць сітуацыю ніколі не позна, тым больш што становішча айчыннайліткрытыкі — адна з самых вострых тэм на працягу апошніх гадоў.**

Крытыку часта называюць служкай літаратуры — і гэта вызначэнне падаецца вельмі слушным тут і цяпер. Ніякі род ці жанр літаратуры не атрымлівае столькі папрокаў, нараканняў і заўваг, як літаратурная крытыка. Ёй бракуе многіх істотных якасцей, яна не выконвае шэраг значных абавязкаў, і ўвогуле айчыннай крытыцы даўно трэба стаць больш самавітай, прастаўнічай ды ўплывовай, але цуд чамусьці не адбываецца.

Канстатацыя крызісу беларускай крытыкі — агульнае месца ў разважаннях пра сучасную літаратурную сітуацыю. Пра гэта выразна сведчаць загалоўкі адпаведных публікацый (Ірына Шаўлякова «Рэпутацыя пасля (аўта)дыскваліфікацыі. Беларуская літаратурная крытыка 2000-х», Пятро Васючэнка «Крытык у адсутнасці чытача і чытач у адсутнасці крытыка» ды інш.). Тым не менш існуе каля дзясятка перыядычных выданняў, дзе рэгулярна друкуюцца новыя тэксты, прысвечаныя бягучаму літаратурнаму працэсу. Што ёсць і чаго няма ў сучаснай беларускай крытыцы? Нагода для роздуму — публікацыі часопісаў «Полымя», «Нёман» і «Маладосць» за 2014 — 2016 гг.

### NOTA BENE

Ці не самыя цікавыя матэрыялы, прысвечаныя сучаснай літаратуры, — **дыскусіі**, якія адбыліся ў часопісе «Полымя». Удзельнікі першага абмеркавання разважалі пра стан дзіцячай літаратуры («Экстрэмальна небяспечны занятак», № 12, 2014). Нагодай для дыскусіі «Не размінуцца з Атлантыдай класікі...» (№№ 1 — 4, 2015) сталі вынікі акцыі «Топ-10 любімых твораў беларускай класікі». Удзельнікі абмеркавання звярнулі асаблівую ўвагу на такія праблемы, як канкурэнцыя паміж камп'ютарам і кнігай, пашырэнне масавай культуры, неабходнасць больш эфектыўнай прамоцыі айчынных кніжных выданняў. Адказы Людмілы Сіньковай, Аксаны Бязлепкінай, Пятра Васючэнкі можна разглядаць як асобныя **праблемныя артыкулы** — менавіта публікацыі гэтага жанру лічацца «красой і сілай» літаратурнай крытыкі.

Сярод праблемных артыкулаў, дзе аналізуюцца тэндэнцыі сучаснай літаратуры, — публікацыі Ірыны Шаўляковай «Эпоха “амаль”» («Маладосць» № 8, 2015) і «Мастацкая самаідэнтыфікацыя» («Маладосць № 9, 2015), Анатоля Андрэева «Выспы Архіпелага N» («Нёман» № 1, 2016), Андрэя Захарэўскага «Хвалі вады і языкі полымя» («Маладосць» № 10, 2016).

Сустракаюцца ў часопісах і тэксты, прысвечаныя дынаміцы развіцця асобных жанраў. Іван Саверчанка ў артыкуле «Сінкрэтызм як мастацкі стыль і эпоха» звяртаецца да жанру рамана, «які не толькі не загінуў, як прагназавалі скептыкі, але і набыў якасна новыя мадыфікацыі» («Полымя» № 3, 2016), Яўгенія Шчокіна раскладае па палічках творы, напісаныя ў жанры прыгодніцкага рамана («Маладосць» № 8, 2014), Ігар Шаладонаў аналізуе асаблівасці сучаснай беларускай аповесці («Полымя» № 10, 2016). Жанрам-фаварытам для аўтараў «Маладосці» застаецца фантастыка: тут надрукаваны «Праект канцэпцыі “сціплага вершніцтва”» для беларускай фантастычнай прозы» Ірыны Шаўляковай (№ 5, 2014), роздумы Алега Грушэцкага «Беларусы — першапраходцы ў фэнтэзі» (№ 8, 2015), вельмі сучасны «Фантастычны даведнік» ад Святланы Курганавай (№ 9, 2016).



Фота Кастуся Дробава.

### ЗЫЧЛІВА

Прадказальна, што сярод публікацый, якія можна ўмоўна аднесці да жанру крытыкі, пераважаюць тэксты, прысвечаныя кніжным навінкам. Узорныя рэчы, накшталт **рэцэнзіі** Георгія Кісялёва на кнігу вершаў Георгія Барташа «Ботиночки», дзе эмацыянальны водгук спалучаецца з дакладным разборам твораў, перыядычна з'яўляюцца ў рубрыцы «Искусство суждения» («Мастацтва думкі») часопіса «Нёман». У рубрыках «З пункту гледжання рэцэнзента» («Нёман») і «Кнігарня» («Полымя») таксама можна адшукаць добрыя рэцэнзіі. Сярод сёлетніх тэкстаў — «Поўня як сонца беларускай паэзіі» Ірыны Шаўляковай («Маладосць» № 9), «Простыя радасці» Зінаіды Краснеўскай («Нёман» № 8), «Матаналіз п'янства» Пятра Васючэнкі («Нёман» № 6).

На старонках часопісаў часта друкуюцца **распаведы пра кнігі** і невялікія **водгукі**, дзе фактычная інфармацыя, лірычныя адступленні ці ўспаміны пераважаюць над аналізам твораў і іх ацэнкай. Выданне новай кнігі — нагода павіншаваць аўтара, звярнуць увагу на характэрныя рысы яго творчасці, адрасаваць найлепшыя пажаданні... Добразычлівыя публікацыі, дзе разгляд мастацкіх тэкстаў можа займаць усяго некалькі абзацаў, выконваюць найперш інфарматыўную функцыю, а да таго ж ствараюць добры імідж маладому аўтару альбо чарговаму класіку.

Аналітычныя тэксты, блізкія да крытычнага артыкула, сустракаюцца значна радзей — як і **літаратурныя агляды**, большасць якіх належаць пяру сталага аўтара «Нёмана» Георгія Кісялёва. «Эстэтыка залатога слова», «Нам ли нужна благодать?», «Гаючыя словы жаночай лірыкі», «Есть странные люди — поэты…», «Не шукай мяне там»... У рэцэнзіях і аглядах Георгія Кісялёва жыццёвае, асабістае адыходзіць на другі план, крытык застаецца сам-насам з мастацкім творам перад аблічам Літаратуры, правілы і традыцыі якой вартыя безумоўнага шанавання. Георгій Кісялёў як чалавек выключна інтэлігентны нязменна запрашае чытача скласці ўласнае меркаванне пра вартасць вершаў, якія часта цытуюцца цалкам. Крытык неаднойчы звяртае ўвагу на пралікі і недакладнасці аўтараў (дый хіба магчыма інакш, калі мы шануем законы літаратуры), што, зноў-такі, адрозніва яго тэксты ад большасці часопісных публікацый...

### ЛЕПШЫЯ З ЛЕПШЫХ

Станоўчыя альбо нейтральныя рэцэнзіі (без аніякіх пярчынак, кіслінак ці крытычных заўваг) на старонках «Полымя» і «Нёмана» прыкметна пераважаюць над рэцэнзіямі адмоўнымі. Нападкі на аўтара, які напісаў проста правальны твор, на шчасце, нізрынуліся ў Лету, беларуская талерантнасць трыумфуе — і тым не менш крытык павінен перасцерагаць творцаў ад памылак, пра што паведамляе кожны энцыклапедычны даведнік.

Ці варта разбіраць недахопы твора — альбо лепш паставіцца да іх лаяльна ці проста не заўважыць слабую рэч? Дзеля ўсеагульнага спакою рэцэнзенты звычайна абіраюць другі варыянт. Але часам карэктнае стаўленне да аўтара спалучаецца з увагай да момантаў, якія выклікаюць непаразуменне. Сярод сёлетніх прыкладаў — рэцэнзіі Інэсы Марозавай («Полымя» № 11) і Маргарыты Дзяхцяр («Маладосць» № 5) на зборнік «Разняволенасць» Таццяны Сівец, дзе крытыкі адзначылі (адпаведна) «абвостраную рэакцыю надрыву, празмерную экзальтаванасць» і «павышаную “пачуццёвасць”» асобных вершаў.

Калі ў часопісах друкуюцца тэксты, прысвечаныя адным аўтарам (і нават адным выданням), то ўзнікае пытанне, у якіх стасунках паміж сабой знаходзяцца гэтыя тэксты. Магчыма, крытыкі спрачаюцца, удакладняюць адзін аднаго, падхопліваюць новыя ідэі?.. Але, як правіла, такія артыкулы, рэцэнзіі, водгукі існуюць паралельна, без намёку на дыскусію. Верагодна, удзельнікі літаратурнага працэсу канчаткова ўпэўніліся ў адноснасці ісціны і не лічаць ацэнку твора ў друку настолькі істотнай, каб абвяргаць яе альбо карэкціраваць...

За тры гады ў часопісах выдавецкага дома «Звязда» змешчана больш за дзвесце публікацый, прысвечаных сучаснай літаратуры. Чые ж творы неаднойчы рабіліся прадметам зацікаўленага разгляду? У гэтым шэрагу можна назваць імёны Алены Брава, Уладзіміра Гніламёдава, Віктара Жыбуля, Уладзіміра Мазго, Міхася Пазнякова, Андрэя Федарэнкі, Ганада Чарказяна...

Пералік можна доўжыць, але і так відавочна, што цікавасць крытыкаў да пэўных аўтараў мае розныя прычыны. Гэта і літаратурны талент, і аўтарытэтнае становішча пісьменніка, і юбілейная дата, і, зрэшты, зычлівасць фартуны, дзякуючы якой на працягу трох гадоў некаторым пашанцавала выдаць некалькі кніг. Часам можна пачуць заўвагу, што 30 — 40 гадоў таму было зразумела, хто знаходзіцца ў шэрагу лепшых, а цяпер крытычныя публікацыі не дазваляюць зрабіць дакладнай высновы. У гэтым меркаванні прысутнічае нейкае цьмянае адчуванне, што пералік аўтараў, пра якіх пішуць найбольш ахвотна, не зусім адпавядае пераліку лепшых. Але справа не толькі ў тым, што адны аўтары выдаюцца часцей за іншых...

Чым больш складаны і глыбокі твор, тым больш складана пра яго пісаць, — і гэту выснову раней ці пазней робіць кожны, хто спрабуе сябе ў крытыцы. Рэцэнзент павінен быць кангеніяльны аўтару, таму зварот да выбітных твораў вымагае альбо ўпэўненасці ў сваіх сілах, якая дазваляе пераадолець адчуванне адказнасці, альбо рызыкоўнасці і вялікага зацікаўлення. Калі мы чуем, што пісьменнік апярэдзіў свой час і ацаніць яго твор здолелі толькі праз шмат дзесяцігоддзяў, то ў гэта вельмі проста паверыць, маючы на ўвазе не столькі чытачоў, колькі крытыку і літаратуразнаўства. Творы, вартыя больш сур'ёзнага разгляду, у сучаснай літаратуры, безумоўна, ёсць — пытанне толькі ў тым, хто і калі за іх зрэшты возьмецца.

### ЧАГО НЯМА?

Шмат заўваг у дачыненні да сучаснай крытыкі было выказана на старонках «ЛіМа» напярэдадні пісьменніцкага з'езду. Так, Георгій Марчук звярнуў увагу на недахоп **«водгукаў пісьменнікаў на творы калег»**. Сапраўды, творцы не спяшаюцца ацэньваць поспехі і няўдачы іншых — за выключэннем хіба Алеся Марціновіча і Генадзя Аўласенкі. Разам з тым менавіта пісьменнікі часта ствараюць **літаратурныя партрэты** аўтараў, з якімі падтрымліваюць добрыя стасункі, — праўда, гэтыя тэксты знаходзяцца значна бліжэй да біяграфічных нарысаў, чым да літаратурнай крытыкі.

Нячаста сустракаюцца **публікацыі, дзе пісьменнікі старэйшага пакалення адзначалі б кнігі маладых аўтараў** ці прынамсі неяк каменціравалі здабыткі новай літаратурнай генерацыі. Некалькі рэцэнзій ад Георгія Кісялёва, некалькі — ад Зінаіды Краснеўскай, увогуле ж маладыя аўтары могуць быць найбольш удзячныя за часопісныя рэцэнзіі колішняму супрацоўніку «ЛіМа» Леаніду Галубовічу. Нежаданне выказвацца пра будучыню літаратуры можна патлумачыць альбо невялікай цікавасцю да новага дня беларускай паэзіі і прозы, альбо непрыманнем эстэтычных установак маладых творцаў ці, зрэшты, скептычным стаўленнем да перспектыў айчыннага прыгожага пісьменства ў XXI стагоддзі...

Такім чынам, у разгледжаных літаратурна-мастацкіх часопісах можна адшукаць некалькі дзясяткаў цікавых крытычных тэкстаў, прычым, найверагодна, яны знойдуцца ў часопісе «Нёман», сталыя аўтары якога — Георгій Кісялёў, Зінаіда Краснеўская і Леанід Андрэеў. Разам з тым сімптомамі «крызісу крытыкі» можна лічыць лаяльнае стаўленне рэцэнзентаў да твораў, недахоп аналітычных аглядаў і праблемных артыкулаў (бо некалькі дзясяткаў тэкстаў — усё ж невялікая колькасць на 108 нумароў). Прычыны гэтай сітуацыі — спецыфіка сучаснага літаратурнага жыцця, незацікаўленасць крытыкаў у пастаноўцы складаных задач, недахоп спецыялістаў, якія працуюць у гэтай галіне літаратурнай творчасці. Калі б у беларускіх літаратурна-мастацкіх часопісах друкавалася яшчэ 3-4 аўтары ўзроўню Георгія Кісялёва, абвяшчаць «крызіс крытыкі» было б нашмат больш рызыкоўна. Чаму крытыкі часцей сыходзяць, чым прыходзяць, — пытанне, якое неаднойчы абмяркоўвалася ў перыёдыцы, але да ўжо агучаных прычын можна дадаць яшчэ некалькі тлумачэнняў...

**Алеся ЛАПІЦКАЯ**

# ПОШУКІ СЯБЕ «Ў ХРАМЕ РАДАСЦІ І СМУТКУ»

**Кожны хоча быць шчаслівым, прынятым, любімым... Асабліва — натура творчая.**

Паэт Алесь Жыгуноў гэтаксама з людзей, паглыбленых у свой унутраны свет, нераўнадушных да іншых — душэўных. Магчыма, таму й сваю кнігу паэзіі, якая выйшла сёлета ў сталічным выдавецтве «Харвест», назваў «У храме радасці і смутку».

Два палярныя, здавалася б, пачуцці — радасць і смутак — паэт спалучае і яднае ключавым словам «храм». Чаму? Храм — гэта ж месца святасці, чысціні, душэўнай раўнавагі... Але, маючы на ўвазе, што Алесь Жыгуноў — мастак слова, чытачу становіцца зразумелым, што сама яго Паэзія і ёсць душэўны храм: радасць і боль, здзяйсненне і мара. Праз шчырае паэтычнае слова творца наталяецца сам і наталяе душу чытача.

У цэнтры ўвагі новай кнігі — унутраны свет лірычнага героя, поўны супярэчнасцей, жыццёвых пошукаў, развагі, сустрэч і расстанняў. Складнікі зместу паэтычнага зборніка Алеся Жыгунова — грамадзянская лірыка, вершы пра каханне і блізкіх, паэмы пра малую радзіму паэта — Шклоўшчыну, творы для дзяцей, пейзажныя і філасофскія творы.

Прыкладам, восень у вершах знітаваная з лірычным героем: блізкая яму па ўзросце, настраёвасці — філасофіі быцця:

*Я восень прывітаю, як сястру,*
*Мы аднаго, я думаю, узросту.*
*Мне з ёй цікава, хораша і проста…*
*Я восень прывітаю, як сястру.*

Алесь Жыгуноў уважлівы да свету беларускай прыроды. У якасці прыкладу можна прыгадаць наступныя радкі: «туманы ляжаць, як сыр на талерцы», «закамянелі сцежкі і дарожкі, пашчодрыў лістападаўскі мароз», «снягоў бялюткіх ціхае вітанне неспадзявана ранкам ападзе», «неба выцвілая просінь», «бруснічнае віно», «ружовы лістабой», «ціха словы плывуць па вадзе», «цішыня пралесак», «рэчка з берагоў высокавае на ўзлесак», «цень крыла птушынага пахмарыць», «на сцежках сёлетняй вясны гамоніць леташняе лісце»... У пейзажнай напеўнасці вершаў знаходзяць выйсце і фальклорныя матывы «народнай вышыванкі», «жытняга коласа і васілёчкаў», «матуліных калыханак», «купальскіх вяночкаў», «задорнага гармоніка», «аціхлых ручнікоў», «радзімак на бярозах».

Многія вершы Алеся Жыгунова пра каханне прысвечаныя не канкрэтнай жанчыне, але «сатканым з некалькіх» абагульненым вобразам каханай. Нягледзячы на гэта, раскрыты вобраз шчыра і вельмі кранальна.

*Паланёная музыкай, спевамі,*
*Захаваўшы сваё пачуццё,*
*Размаўляе любімая з дрэвамі*
*Пра мяне, пра сябе, пра жыццё.*
*З вабнай краскай, нібыта са свечкаю,*
*Па зялёнай сцяжыне ідзе.*
*Размаўляе любімая з рэчкаю,*
*Ціха словы плывуць па вадзе…*

У абмалёўцы вобраза каханай Алесь Жыгуноў акцэнтуе ўвагу на «цеплыні ў паглядзе», на параўнаннях яе з «мілай і вольнай стыхіяй», з «залеўнай вясной», з легкакрылай «птушкай». Нярэдка да сваёй лірычнай каханай паэт звяртаецца сам, моліцца за яе жыццё, хвалюецца, шкадуе, шукае выйсце:

*Забяры мае сны, я прашу: забяры.*
*І праз гэтулькі год, можа, ўрэшце пачую,*
*Як галёкае рэха ў вясновым бары,*
*Як вадзіца ў рачулцы вясной нерастуе.*
*Як снуецца жыццё, правіць баль пачуццё.*
*Як няўмольна ідзе шум зялёны, вясновы.*
*І навошта жыццё, мне такое жыццё,*
*Калі ў ім толькі словы, бяскрылыя словы…*

Акрамя вобраза каханай у новым зборніку Алеся Жыгунова значнае месца займае вобраз маці. Не абстрактны, а канкрэтны — самага блізкага чалавека, Марыі Сямёнаўны Жыгуновай (Жураўскай).

Як Рыгор Барадулін у кнізе «Евангелле ад мамы» ўслаўляў вобраз сваёй матулі, Куліны Андрэеўны, так і Алесь Жыгуноў з асаблівай любоўю апявае сваю «берагіню» — Марыю Сямёнаўну. Кранальна, дзесьці сіратліва, са шкадаваннем і болем гучаць многія радкі, у якіх «жыве» мама:

*У сябра радасць, у мяне — таксама,*
*Па-людску я сябрую і люблю.*
*Сваёй любоўю блаславіла мама,*
*Як з рук мяне спускала на зямлю.*
*Я крок зрабіў пад матчыным наглядам,*
*І па расе мой адбіваўся след.*
*За хатаю бацькоўскаю, за садам*
*Мне адкрываўся неабсяжны свет…*

Лірычны герой хвалюецца праз немагчымасць штосьці паправіць пасля маміной смерці. Таму ён адчувае душэўную няўтульнасць, унутранае разладдзе з самім сабой. Вобраз маці цэнтральны ў паэмах «Хата» і «Спатканне з Тройцай».

Нямала шчырых слоў прысвячае паэт і свайму бацьку — Міхаілу Андрэевічу Жыгунову («Бацькоўская каса», «Калі ў руках звініць каса», «Не толькі бацькава віна…», «Вялікдзень», Бацькаў сасоннік»), услаўляе яго працавітасць, выказвае сыноўнюю ўдзячнасць і павагу. Вобразы маці і бацькі прадстаўлены ў зборніку не ізаляванa, а ў трыадзінстве з вёскай Тройца, малой радзімай паэта.

«У храме радасці і смутку» лірычны герой нярэдка застаецца сам-насам, паглыбляецца ва ўнутраны свет. Праз развагі-пошукі раскрываецца асоба паэта, акрэсліваецца яго грамадзянская і маральна-этычная пазіцыя:

*Ля цяпельца зары натамлёны прысяду*
*І такую размову з сабой павяду:*
*Пра птушыную вернасць, пра нізкую здраду,*
*Пра фантаны хлусні, пра жывую ваду.*
*Дык чаму ж на душы маёй смутна і слотна,*
*Калі ліпень разводзіць калодамі мёд,*
*Калі надта прыгожа, пяшчотна і цнотна*
*Пачынаўся і доўжыўся дзень мой і год?*
*Столькі я пераджыў, што становіцца страшна,*
*Што нічога-нічога яшчэ не зрабіў,*
*Бо ішоў я ў жыццё, нібы ў бой рукапашны,*
*І маральна, магчыма, кагосьці забіў…*

Асобнае месца ў новай кнізе Алеся Жыгунова адводзіцца для вершаў і казак, адрасаваных дзецям малодшага і сярэдняга школьнага ўзросту.

**Людміла ГУЙДА**

# НЕРАЗМЕННЫЯ ПІЯСТРЫ




**Чаму ў свеце дарослых, а значыцца, людзей разумных і разважлівых, столькі непаразуменняў? Адкуль бярэцца гэтае бязглуздае самасцвярджанне праз войны, спрэчкі і звадкі, калі мы ўсе разам ляцім да зор? Адказ да смешнага просты: бо свету дарослых не існуе.**

Калі прыняць гэта за праўду, усё становіцца на свае месцы. Вось ты стукнуў пластыкавым савочкам свайго суседа па пясочніцы, бо той не даў пагуляцца з новай, прыгажэйшай, чым у цябе, машынкай. А вось ты пішаш скаргі ў высокія інстанцыі, бо ў тваёго калегі па пяры апавяданні больш таленавітыя. З адным толькі адрозненнем: у маленстве ты шчыра прызнаешся сабе ў прычынах непрыгожых паводзінаў, а пасталеўшы, умееш знайсці тысячы прыгожых і высакародных тлумачэнняў. Бо хто захоча прызнаць, што недалёка пайшоў ад той пясочніцы?..

Па вялікім рахунку, кніга Маргарыты Латышкевіч «Яблыкі» якраз пра тое — пра свет дзяцей. Дзецям гэтым — ад пяці да пяцідзесяці з гакам. Але незалежна ад узросту ўсе яны хочуць аднаго: самасцвярдзіцца, быць шчаслівымі, любімымі, прызнанымі ды прынятымі ў сваёй супольнасці. Але ўзрост навязвае свае правілы, і хітры ўнутраны голас падказвае: будзь сур'ёзны, будзь дзелавіты, рабі як усе, і ніхто не здагадаецца, што ты так і застаўся зарумзаным дзіцём з савочкам.

Для спадарыні Маргарыты гэта не першая кніга: раней быў паэтычны зборнік «Пульс навальніц». Што да прозы, «Яблыкі» — дэбют. Апавяданні з гэтага зборніка друкаваліся ў літперыёдыцы і абазнанаму чытачу будуць знаёмыя. «Пульс навальніц» і «Яблыкі» лучыць нязменна аптымістычны і рамантычны погляд аўтара на свет. Аднак рамантычнасць тут не тоесная ружовым акулярам. Гэта хутчэй здольнасць прымаць чалавечыя слабасці. Вера ў тое, што чытач прызнае ў сабе крыўдлівае эгаістычнае дзіця і пасмяецца разам з аўтарам.

Пры ўсім пры тым Маргарыта Латышкевіч застаецца рэалістам. Яна не адмаўляе ў чалавечай прыродзе зайздрасць, пыху, самаўпэўненасць, эгацэнтрычнасць, грубасць і няўважлівасць да бліжняга. Якраз гэта і надае абаяльнасць яе прозе: любоў да чалавека нягледзячы ні на што. Чытач абавязкова адчуе, што й сябе аўтарка не ставіць вышэй за сваіх герояў, што ў кожным з іх бачыць нешта ад сябе. Зрэшты, толькі прызнаўшы сваю ўласную цемру, ты зможаш хоць нешта ўгледзець у прыцемках чужое душы.

Адметнасць прозы спадарыні Маргарыты — у дзвюх вызначальных рысах. Па-першае, гумар, які выступае адначасова павелічальным шклом, зброяй і абаронай. Смех, які часам даходзіць да гіпербалы і гратэску, дазваляе павялічыць дробныя (і дробязныя) рысы чалавечай натуры да памераў, неабходных для прэпарацыі. Перабольшваючы, ты даследуеш з'яву, не такую й заўважную ў штодзённасці. Гэты ж смех вынішчае негатыў: пасмяяўшыся, прыкладам, з чужое скварнасці, ты ўжо не зможаш усур'ёз абараняць гэтую рысу ў самім сабе. І ў рэшце рэшт, смех абараняе: можна з гумарам паглядзець на спартанскія будні палiклінікі («Інструкцыя для хворых») — а можна й самому заразіцца вірусам занудлівасці, а то й злосці. Цяжка згадаць падобную стылістыку ў нашай літаратуры. Блізкая хіба што сучасная паэзія — вершы Андрэя Хадановіча, напрыклад. Што да прозы, гэта далёка не мрыеўская сатыра і ўжо тым больш не куслівыя байкі Крапівы. Многа бліжэй па гучанні творы О. Генры, Джэрома, Вудхаўза, у якіх на мэце не выкрыць ці высмеяць, але праз лёгкае, нязлоснае пакепліванне зрабіць свет крыху лепшым.

Другая адметнасць прозы Маргарыты Латышкевіч — знарочыстая простасць светаўспрымання. Вы адчуваеце, што ўсё не так проста і лёгка, як падаецца ў тэксце; адчуваеце гэтаксама, што й аўтарка гэта ведае. Але якраз такі погляд на свет, такая стылістыка дазваляюць зазірнуць у самы корань справы. Занурванне ў праблему і пакутлівыя рэфлексіі разбурылі б гэтую лёгкую, светлую прозу. Аўтар вытрымлівае зададзены тон бездакорна.

Што ж стварае камічны эфект у апавяданнях Маргарыты Латышкевіч? Супастаўленне чаканага і рэчаіснасці. Мы ведаем: дарослы чалавек мусіць зрабіць так і так. Але герой спадарыні Маргарыты паводзіцца нелагічна, пацешна, разам з тым — міла і кранальна. У такім адлюстраванні героя бачная непадробная любоў аўтара. Цікава, што супастаўленне «павінна» і «ёсць» у апавяданнях Маргарыты Латышкевіч адбываецца на двух узроўнях. Першы — вонкавы: персанажы (а з імі — чытач) чакаюць ад галоўнага героя адзін крок, а ён выдае зусім іншы. Другі ўзровень больш складаны і, адпаведна, камічны эфект ад яго большы: калі герой хоча зрабіць адно, а робіць зусім іншае, чаго вымагаюць пасада, узрост, гендар і г.д.

Ёсць яшчэ адно несупадзенне поглядаў, якое выклікае і смех, і роздум: гэта вайна светаў дарослага і дзіцячага. У такіх выпадках проза Маргарыты Латышкевіч гучыць на манер «Маленькага прынца» Экзюперы.

Героі змяняюцца, змяняецца ракурс (аўтар-назіральнік і аўтар-герой), але апавядальнік застаецца ўсё той жа. Менавіта ён аб'ядноўвае тэксты ў адно цэлае. А сустракаюцца тут і эсэ, і літаратуразнаўчая работа (у мастацкай форме, вядома), і навелы, і ўласна апавяданні (насамрэч, усе тэксты названы апавяданнямі адно дзеля зручнасці). Розныя й тэмы: сяброўства («Яблыкі»), каханне («Шчасце», «У.»), пакуты творчасці («Ельнікаў і птушка шчасця», «Муза»), пошук ідэалу, мары («Дар»), літаратура («Васілёк і Лотаць»), стасункі з людзьмі блізкімі і не вельмі (ці не ўсе тэксты). І, зноў жа, у любой тэме вызначальным робіцца канфлікт паміж сапраўдным і ўяўным.

Пры гэтым асобнай увагі заслугоўвае апавяданне «Зямля», самае глыбокае і самае «маштабнае» тэматычна. Метафара ляжыць на паверхні: дзеці з іх гульнёй у «Зямлю» — неразумнае чалавецтва са сваімі войнамі, рэвалюцыямі, братазабойствамі. І калі ў першым выпадку найбольшы ўрон — слёзы і пара гузакоў, то ў другім — мора крыві і надмагілляў. Самае істотнае датычна гэтага апавядання — пачуццё меры аўтара: спадарыня Маргарыта ні словам, ні намёкам не абмовілася пра гэтую паралель. Яна распавядае выключна пра дзіцячую гульню. Усё галоўнае — па-за тэкстам. У гэтым палягае прыкмета вялікага таленту, які, маю спадзеў, яшчэ не раз дасць пра сябе ведаць.

**Наста ГРЫШЧУК**



Людміла КРУГЛІК

## Замілаванне

Люблю, калі мароз-мастак
Нябачна на акенцы
Карціну намалюе так,
Што замірае сэрца.

Люблю, калі павольны снег
На вальс запросіць вечар,
Калі з гары дзіцячы смех
Імчыць на санках вецер.

Як раптам зграйка снегіроў
Прысядзе на рабіне.
І, абдымаючы сяброў,
Заружавее іней.

Па снезе зарыпіць мароз,
Калі нагой кранаю.
І, што б ні насурочыў лёс,
Жыццё як ёсць прымаю.

***

Ці здольныя адчуць мы крык душы,
Калі яна яшчэ не стогне з болю,
Калі яшчэ стаім ля той мяжы,
Дзе можна лютасць не пускаць на волю.

Ці здольныя адчуць мы крык душы
Таго, хто з намі назаўсёды побач,
Хто раіць: «Шчэ падумай. Не грашы...»
Як цяжка зразумець, прыйсці да згоды...

Памылак не пазбегнуць аніяк.
На тое і жыцця шляхі-дарогі.
Прыслухайся к сабе, мо што не так...
Адкажа сэрца, прыйдзе на падмогу.

Калі б мы чулі крык сваёй душы,
Не залівалася б зямля крывёю.
Паслухай яе голас у цішы —
Не зарасце твой след густой травою.

## Думкі

Праз жыццё ў клапатлівых справах
Несла думкі я цераз гады
І губляла ў шаўковых травах
Ля азёрнай сіняй вады.

Пасяліліся думкі ў росах,
Сонца промнем лашчыла іх.
Павучок ткаў сурвэтку на кроснах,
Каб схаваць ад сцюжаў сівых.

Прараслі мае думкі ў полі,
Абудзіўшы душу ад сноў,
І панёс іх ветрык паволі
Аблачынкай светлай дамоў.

Той знаёмай кароткай дарогай
Цераз поле і лес напрамкі...
Дзе жыцця сляды і парогі,
Дзе жывуць мае землякі.

## Малітва маці

Спачываюць рукі, цьмяна ў хаце,
Лапы звесіў з лавы шэры кот.
У куце малітву шэпча маці,
Каб жылося дзецям без турбот.

Каб не ведалі ніколі стомы
І здароўе пасылаў ім Бог,
Каб заўжды вярталіся дадому
І з вялікіх, і з цяжкіх дарог.

Лашчыць позіркам ікону маці
З думкай: «Дзе дачушка? Дзе сынок?»
І цалуе крыжык, як распяцце,
Каб Анёл абараніць іх змог.

Ёй самой ад іх так мала трэба.
Каб не забывалі праз гады
Хаты, дзе застаўся водар хлеба,
Дзе матуля рада ім заўжды.

У куце малітву шэпча маці,
Каб жылося дзецям без турбот.
Цішыня наўкол і змрочна ў хаце,
Толькі ў сне вуркоча шэры кот.



Таццяна АТРОШАНКА

## Не я

У начы — дзявочы твар
І, здаецца, тыя ж рысы...
Ты пазнаў мае абрысы?
То не я, то цень-махляр…
У начы — дзявочы твар.
Кажаш ты, такія ж вочы?
Так жа лёгка ў ранне крочыць,
Нібы я, саткана з мар?
У начы знаёмы твар
І празрысты смеху россып?
Ты не вер...
Табе здалося...
То не я...
То подых хмар...

## Двубой

Я хаджу, як заўсёды, белай,
І няроўны вяду двубой —
Я у сэрца трапляю смела,
А ты меч адкідаеш свой…
І з усмешкай скідаеш латы
З непакорнай маёй душы...
Мілы вораг ты мой закляты!
Ты у ёй тут заўсёды жыў!
Адступае мой полк знямелы,
Я іду праз фігурак строй,
Апынаюся каралевай,
Калі крочу побач з табой...

***

Чаму птушкі імкнуць у аблокі?
Не стрымаць іх ніякай сілай...
Як той птах, трапяткі і лёгкі,
Я хачу безнадзейна ў вырай…
Не стрымаць іх ніякай сілай,
Калі вабіць палёту слодыч,
Я хачу безнадзейна ў вырай,
Каб з табой быць заўсёды побач...

## Крокі

Крокі...
Адзін за адным...
Ля дома майго,
За домам маім —
Лёгкія крокі
Гучаць недалёка...
Крокі
Не могуць маўчаць —
Нібыта крычаць
У горкім адчаі,
Што пульс не змяшчае —
Забыць і не знаць...
Крокі...
Адзін за адным...
Ад сэрца да сэрца —
Ці сон, ці здаецца?
Імгненне смяецца:
Каханне ці дым?

## Я хварэю зімой

Я хварэю зімой,
Калі гулка і пуста ў душы —
Там гуляюць вятры,
Там і сонца не свеціць, не грэе...
Я хварэю зімой,
Калі смех застывае ў цішы...
Я хварэю зімой —
Ну а сонца?
Чым сонца хварэе?
Я хварэю зімой,
Калі неба ад снегу дрыжыць,
Калі зоры маўчаць,
Калі твар да вясны не старэе...
Я хварэю зімой,
Калі пульс не спяшаецца жыць,
Я хварэю зімой…
А зіма?
Чым вясной захварэе?..

***

Світае...
Хутка дзень...
Глядзіць
Ружовы позірк небакраю...
Ён ні хвіліны не чакае —
Спяшае ранне пабудзіць...
Так, хутка дзень...
Ужо світае...

## Для адзінай

Моцны вецер ломіць вецце,
Гоніць пыл з сямі дарог,
Ён кахання не прыкмеціў,
Што прысела на парог...
Яно шэрымі вачыма
Паглядала ўдалячынь —
Недзе той, хто за плячыма,
Хто не помніць ні аб чым...
Плакаў вецер, кідаў смецце,
Ды, напэўна, ведаў Бог,
Для чаго быў лішнім трэці,
Што каханне так бярог,
Для чаго зрываў ён зоры —
І, напэўна, тым грашыў:
Будаваў ён Зорны Горад
Для адзінай у душы...

## Мастачка

Я малюю твой сум,
Як малюю усмешку —
Прафесійны мастак
Ці запэцканы грэшнік...
Каляроваю пастай
Самоты і болю
Я малюю цябе
З абразоў, што пад столлю...
Я малюю твой боль,
Як малюю адхланне,
Называю табой
Свой малюнак расстання,
Я малюю твой боль,
Што трымае за плечы, —
Забіраю з сабой,
Каб парваць і скамечыць...

## Каханне

За дзверы — хутка...
Да цябе...
Ключы і словы —
Забываю...
Пароль адвечны —
Так ці не? —
Як заклінанне паўтараю...
Блукаю... Доўга... Не паспець...
Ну, вось і ты... Мяне шукаеш...
З табой... Адным... Хачу... Ляцець...
Кахаю я...
І ты... кахаеш...

***

Ты — мой адчай,
Мой боль і страта,
Нібы за кратамі душа...
Я, нібы вой, надзену латы,
Перахрысціўшыся спярша,
І адыду туды, дзе памяць,
Дзе паліць вусны подых твой,
Сама сябе не стану славіць,
Я прайграю апошні бой...
Я не хачу твайго вяртання,
Вось так, адна, сваёй рукой
Сама
Заб'ю
Сваё
Каханне,
Калі ты побач не са мной...



Таццяна СТАРАСЦЕНКА

***

У буднях здараюцца святы,
а ў святах — дажджы і слота.
Распісваем планы на заўтра
і бачым сябе ва ўзлётах
кар'еры, дастатку і славы.
Ды толькі так нечакана
нахлыне адчайна навала
няўдач зімова-завейных.
Растаюць салодкія словы
хлусні ад сяброў уяўных,
і будзем прачытваць нанова
старонкі надзей нядаўніх.
Куды б ні ляцелі дарогі,
куды б ні клікалі далі,
не трэба жыццёвага «многа»,
бо ёсць уласнае «мала»,
якое завецца Сусветам
са складнікаў самых блізкіх —
сям'і, што табою сагрэта,
і веры крышталька-чыстай.

## Жанчыне

Завіруху прагоніш усмешкай,
мудрым словам залечыш раны.
Ты — жанчына. І хай твае сцежкі
асвятляе вясновы ранак,
на здароўе і веру багаты,
на шчаслівы палёт у дзецях.
А яшчэ — на заўсёднае свята,
што каханнем напоўніць сэрца.
Ты — жанчына з цяплом пяшчоты,
з глыбінёю вачэй прыветных.
Прагучыць незабыўнай нотай
шлях зямны твой у гаме свету!

***

Гартаю старонкі зімы
з радкамі заснежаных думак.
Мяняю агульнае «мы»
і вязь непатрэбнага тлуму
на мудра-спакойнае «я»,
дзе спешкі няма і падману,
дзе шчасце, здароўе, сям'я
і радасць зімовых світанкаў.
Сняжок, заставайся са мной
і ў маі, і ў жніўні спякотным,
каб сцерці сваёй белізной
счарнелыя плямы турботаў!

***

Чаму патухаюць зоркі,
якія гарэлі ярка
ўночы і нават на золку?
Цяпер жа толькі агаркі
ранейшых вышынь і мрояў.
Так і ў жыцці чалавечым:
будуем палац дыхтоўны,
ды ў ім не пануе Вечнасць.
А Вечнасць пануе ў Храмах
дабра, чысціні, любові,
дзе лечаць зямныя раны
і дзе не бывае болю.

***

Усміхніся халадам ды сцюжам
і тугу на сэрцы не трымай!
Можна ўсё прайсці, усё адужаць,
нават гора, слёзы і адчай,
разам з верай сонечна-вясновай,
што імкне да зорнай вышыні.
Трэба жыць, каб нараджацца з новым
адчуваннем шчасця ў кожным дні!



Сяргей БЕЛАЯР

# Выбар

*Апавяданне*

Дзень выдаўся не па-вераснёўску гарачым, і пры поўнай адсутнасці ветру жыватворную прахалоду дарылі толькі кроны дрэў. У паветры вісеў моцны пах пораху і крыві. Адбіць металічны прысмак у роце дапамагала выключна гарэлка.

Сяржант дзяржаўнай бяспекі Макар Наседкін плюхнуў у алюмініевую конаўку пяцьдзясят грамаў «Сталічнай» і махнуў залпам, амаль не адчуўшы смаку. Піць у апошнія тыдні даводзілася ледзь не кожны дзень: працы і ў турме, і ў лесе хапала. Асуджаныя да вышэйшай меры крымінальнага пакарання паступалі суцэльным патокам.

Звыкла змяўшы канец гільзы «Беламорканала», Наседкін прыкурыў, абыякава гледзячы на «Чорную Марусю», якая набліжалася да паляны. На борце фургона, які вёз зняволеных, — надпіс «Хлеб». Грузавік спыніўся, не даяджаючы дзясятка метраў да найбліжэйшай незапоўненай магільнай ямы. Вадзіцель адчыніў заднія дзверы, і байцы канвойных войскаў НКУС пачалі выводзіць новую партыю — мужчын і жанчын, падлеткаў і старых, беспартыйных і камуністаў, рабочых і сялян. Збітыя, апранутыя ў брудныя лахманы, яны былі падобныя да беспрытульнікаў.

— «Контру» прывезлі! — сказаў капітан дзяржаўнай бяспекі Залман Шліфензон, наліваючы сабе гарэлкі. Прыводзіць прысуд у выкананне яму падабалася — піў капітан зусім не для таго, каб зняць нервовае напружанне, а з мэтай павысіць тонус. Сяржант машынальна зашпіліў верхні гузік белай ваўнянай гімнасцёркі. — Зараз пазабавімся!

Не даючы людзям апамятацца, штыкамі і прыкладамі іх пагналі да ямы. Рэакцыя ў зняволеных была рознай, аднак ніхто нават не думаў пра супраціўленне, паколькі ламаць волю ў камісарыяце ўмелі.

— За новы свет!.. Эх, добрая, зараза! — расстрэлы зусім не ўплывалі на апетыт капітана — закусваў Шліфензон чырвонай ікрой, якую чэрпаў лыжкай проста з бляшанкі.

У адрозненне ад капітана, сяржант не мог глядзець на застаўленую далікатэсамі патронную скрыню. Кавалак не лез у горла.

— Нешта гарачавата сёння! — Шліфензон зняў фуражку, каб прамакнуць лысіну насоўкай, а затым таксама закурыў — дарагі «Казбек» са скрынкі, што расхінулася. Пры выглядзе стройнай дзяўчыны, якая падтрымлівала сваю цяжарную сяброўку, погляд капітана стаў сальным. — Файная кабылка! Пакахацца?.. Акажа апошнюю паслугу сацыялістычнай дзяржаве ў маёй асобе.

Падобнага роду забавы Наседкіну былі не даспадобы, аднак спыняць Шліфензона сяржант не збіраўся. Дзяўчына сама абрала свой лёс, выступіўшы супраць закона.

— Будзе ёй апошні прыемны ўспамін! — выскаліўся капітан і, растаптаўшы наском хромавага бота недакурак, перакуліў у сябе яшчэ сто грамаў гарэлкі, для куражу. — Пайшлі!

Сяржант мімаволі здзівіўся таму, наколькі моцнай бывае ў людзях надзея, — усё паказвала на тое, што зняволеных прывезлі на расстрэл, тым не менш яны чакалі, што адбудзецца цуд, што ўсё вернецца на кругі свая і забудзецца як страшны сон.

На здзіўленне, знайшоўся нават такі, хто адважыўся заявіць пра сваю невінаватасць. Натоўп імгненна расступіўся, пазбавіўшы баламута падтрымкі.

— Вось нават як? — Словы зняволенага выклікалі ў Шліфензона слабую ўсмешку. — Гэта што ж атрымліваецца: савецкае правасуддзе, самае справядлівае ў свеце, дапусціла памылку?

Толькі той, хто зусім не ведаў Шліфензона, мог паверыць, што капітан жахнуўся.

— Так.

— І што, дазвольце пацікавіцца, дае вам нагоду сцвярджаць падобнае? — Калі б Шліфензон быў цвярозым, застрэліў бы зняволенага на месцы.

— Я не парушыў аніводнага савецкага закона, — мужчына вытрымаў ацэньваючы погляд.

— Выходзіць, савецкае правасуддзе яшчэ і сляпое?

Зняволенаму спыніцца б, зразумець, што памяць можна доўга і пакутліва, але яго нібы цягнулі за язык.

— Зразумейце мяне правільна: я не сцвярджаю нічога падобнага, але ж ніводная сістэма, нават самая ідэальная, не застрахаваная ад памылак, — нягледзячы на шматлікія гематомы, якія пакрывалі адкрытыя часткі цела, мужчына трымаўся прама. — Чалавечы фактар ніхто яшчэ не адмяняў...

— Інтэлігенцік? — пацікавіўся Шліфензон, закурваючы новую папяросу.

— Прабачце? — зняволены залыпаў вачыма, збіты з панталыку пытаннем капітана.

— Інтэлігенцік, пытаюся?! — Шліфензон нават не падумаў хаваць пагарды. Наадварот, наўмысна яе падкрэсліваў.

— Можна сказаць і так, але якое гэта мае значэнне? — зняволены паглядзеў на сяржанта, быццам спадзеючыся: ён дапаможа разабрацца. Дарэмна: у Наседкіна не было агульных тэм для размовы з «ворагамі народа».

— Мае, грамадзянін. Усё мае значэнне, — капітан наблізіўся да зняволенага і, зрабіўшы глыбокую зацяжку, выдыхнуў цыгарэтны дым яму ў твар, прымусіўшы паморшчыцца. — Вось што я табе скажу, «контра»: калі ты, як і ўсе гэтыя гніды, трапіў сюды, значыць, ёсць за што. Значыць, краіна Саветаў палічыла вас небяспечнымі для грамадства.

З кожным словам злосці ў голасе Шліфензона дадавалася. Людзі адчулі гэта і міжволі адступілі. У спіны ім ткнуліся штыкі канваіраў.

— І чаго вам не жывецца спакойна? Чаму не працуеце на карысць дзяржавы, як іншыя добрапрыстойныя грамадзяне? Па якой прычыне стараецеся нашкодзіць, знішчыць, спаскудзіць?.. Што ў вас за нутро такое? Адна гнілата!

— Прабачце, таварыш...

Капітан раз'юшыўся яшчэ мацней:

— Паскуда! Для цябе я — «грамадзянін начальнік»! — Рука Шліфензона пацягнулася да кабуры. Развязка набліжалася. — Савецкая ўлада на чале з таварышам Сталіным памыляцца не можа!

Сяржант нават не ўяўляў, што магло б пахіснуць упэўненасць капітана.

— Таму што Савецкая ўлада з'яўляецца уладай народа! — Шліфензон выцягнуў ТТ і ўзвёў курок. Ад сухой пстрычкі натоўп здрыгануўся. Пісталет у апушчанай руцэ капітана магнітам прыцягваў погляды.

У сваіх здагадках — Шліфензон не стане банальна забіваць зняволенага — Наседкін не памыліўся. Капітан навёў зброю на мужчыну і нейкі час трымаў ТТ на ўзроўні яго лба, а затым рэзка апусціў руку і націснуў на спускавы кручок.

Зняволены нема закрычаў і, схапіўшыся за прастрэленае калена, паваліўся на зямлю, шчодра абросячы крывёю прымятую мноствам ботаў, туфляў і чаравікоў траву. Віск жанчын абарваўся, варта было толькі Шліфензону раўнуць:

— Маўчаць!

Боль у раздробленым калене быў пякельным — зняволены катаўся па зямлі і выў, як дзікі звер. Капітан стаяў над параненым і з задаволенай усмешкай назіраў за яго пакутамі.

Як толькі танальнасць лямaнту змянілася, Шліфензон ударыў ботам па ране. Крык зняволенага гучаў для капітана чароўнай музыкай, якую ён быў гатовы слухаць бясконца.

— Вас, гнід, трэба ціснуць у калысцы, пакуль вы яшчэ не паспелі ўчапіцца ікламі ў горла Савецкай улады, пакуль не пачалі піць народную кроў і атручваць паветра сваім смуродам!

Прагрымеў новы стрэл. Цяпер ужо абодва калены мужчыны былі раздробленыя. Наседкін нечакана для самога сябе адвёў погляд. Цяжарная трымалася з апошніх сіл: нараджаць ёй трэба было максімум праз месяц. Калі б не дапамога сяброўкі, упала бы дакладна.

— Але лепш — знішчаць увесь ваш паганы род да сёмага калена! Каб іншым непанадна было... У яму гэтую падлу! Закапаем жыўцом!

Двое канваіраў кінуліся выконваць загад капітана, а Шліфензон, вылаяўшыся, выцягнуў насоўку і пачаў старанна сціраць кроў з бота. Скончыўшы, з гідлівасцю кінуў насоўку ў яму, а затым яшчэ і плюнуў туды.

— Сяржант, пачынай!.. А ты, — палец Шліфензона торкнуўся ў дзяўчыну, якая спадабалася яму, — хадзі сюды! — зняволеная адмоўна паматала галавой. — Што табе незразумела? Да мяне!

Моцны штуршок у спіну прымусіў жанчыну расцягнуцца ля ног капітана. Яе сяброўка войкнула і грузна асела на зямлю, так і не дачакаўшыся дапамогі ад калег па няшчасці. У вачах цяжарнай выступілі слёзы. Наседкін падазраваў, што зусім не ад болю.

Шліфензон наматаў валасы дзяўчыны на кулак і рэзкім рыўком падняў яе на ногі, а затым прагаркаў на вуха:

— Калі я аддаю загад, гэта азначае, што гэты загад павінен быць выкананы. І як мага хутчэй!

За словамі рушыў удар. Дзяўчына склалася напалову, але не ўпала, паколькі капітан не адпусціў яе. Цяжарная паспрабавала ўстаць на абарону сяброўкі, але канваір «супакоіў» яе ўдарам па нырках.

Наседкін выбраў з натоўпу выпадковага зняволенага — шчуплага хлопца гадоў чатырнаццаці — і павёў да ямы, на хаду выцягваючы з кабуры рэвальвер.

— Дзядзечка, не трэба! — захныкаў падлетак, аднак яго слёзы зусім не кранулі сяржанта.

— Устаць на край ямы спінай да мяне! Не паварочвацца! — краем вока Наседкін адзначыў, што Шліфензон літаральна пацягнуў дзяўчыну да найбліжэйшых кустоў. Цяжарная, не ў сілах дапамагчы сяброўцы, загаласіла. Жывёльнае выццё бізуном паласнула па сэрцы. Каб заглушыць гэты жудасны лямант, сяржант прыцэліўся ў патыліцу падлетка і спусціў курок. Цела кулём паляцела ў яму.

— Што ж вы робіце? Гэта ж дзіця!

— Наступны! — напалову павярнуўшыся, крыкнуў Наседкін. Праз некалькі секунд на краі ямы стаяла новая ахвяра. Стары дрыжаў усім целам і напаўголаса лапатаў малітву. Успамін пра Бога нечакана моцна раззлаваў сяржанта, і ён уклаў у стрэл усю сваю лютасць. — Наступны!

З кустоў даносіліся маленне аб дапамозе і злая лаянка Шліфензона, разведзеная глухімі гукамі ўдараў. Канваіры падцягнулі да краю ямы мужчыну, які адчайна супраціўляўся і ў якім беспамылкова ўгадваўся партыйны функцыянер. Гэтыя асабліва моцна чапляліся за жыццё, паколькі паспелі спазнаць яго шчадрот.

— Таварышы, вы не можаце так паступіць са мной. Я ж свой!

— Заткніся, гад! — з былым членам ВКП(б) не цырымоніліся: ударам прыклада зламалі сківіцу.

— Я свой…

— Наступны! — Наседкін дзейнічаў як аўтамат: сем стрэлаў — сем трупаў. У барабанным зараджанні быў свой плюс: марудлівы працэс набівання гнёздаў патронамі дазваляў перавесці дух. Праца ўсё-такі няпростая. Вельмі адказная да таго ж.

Першай у другой сямёрцы апынулася цяжарная. Хутчэй за ўсё, канваірам надакучыла яе галашэнне. Жанчына не магла перасоўвацца без староннай дапамогі. Байцы, мацюкаючыся, падцягнулі яе да ямы і пасадзілі на зямлю. Скрозь скуру заключанай праступалі гематомы — у камісарыяце ні для каго не рабілі выключэнняў.

Сяржант навёў рэвальвер на патыліцу цяжарнай, імкнучыся не думаць, якая за ёй віна. Зняволеная толькі зрэдку ўсхліпвала. Палец Наседкіна дакрануўся да спускавога кручка. І тут нагадаў пра сябе паранены:

— Таварыш сяржант... Грамадзянін сяржант, хачу прапанаваць вам выгадную здзелку!

Зварот зняволенага Наседкін праігнараваў — некаторыя індывіды перад смерцю чаго толькі не абяцалі за тое, каб ім захавалі жыццё.

Уціснуўшы галаву ў плечы, цяжарная пакорліва чакала сваёй долі. А вось паранены не сунімаўся:

— Квантавы пераўтваральнік матэрыі ў абмен на жыццё гэтай жанчыны і яе дзіцяці. Вы зможаце мець любы матэрыяльны прадмет, які толькі захочаце, не прыкладваючы да гэтага ніякіх намаганняў!

Сяржант хмыкнуў — і чаго толькі не прыдумаюць людзі дзеля некалькіх лішніх хвілін жыцця. Дзіўны тып — і просіць жа не за сябе, за кабету...

— Я вас не падманваю, — казаў паранены скорагаворкай. — Матэрыялізатар сапраўды існуе. Неабходна толькі дабрацца да месца, дзе пацярпеў крушэнне мой касмічны карабель. Адсюль недалёка! Гэта вельмі добрая прапанова!

Сяржант так і не здолеў зразумець, якія менавіта ноткі ў голасе параненага абудзілі ў яго душы чарвяка сумневу. Рука Наседкіна сама па сабе апусцілася. Зняволены пачаў падрабязна тлумачыць прынцып работы прыбора. З ягоных слоў сяржант так нічога і не ўцяміў. Зразумеў ён толькі адно: перад уладальнікам прыбора адкрываліся нябачаныя перспектывы.

— Што тут адбываецца? — нахмурыўся Шліфензон, на шчацэ якога чырванелі свежыя драпіны, пакінутыя жаночымі пазногцямі. Канваіры прывалаклі дзяўчыну, падобную да зламанай лялькі. — Па якой прычыне спыніўся?

Наседкін сцісла пераказаў сутнасць прапанаванай яму здзелкі.

— Дурань, і ты паверыў у гэтую лухту?.. На сонцы перагрэўся або гарэлка ў галаву ўдарыла?

— А калі не брэша?

— Прыбор, здольны зрабіць любую рэч з нічога? Так не бывае! І ты павінен як матэрыяліст разумець гэта. Страляй!

Наседкін марудзіў.

— Ну! — асаблівым цярпеннем Шліфензон не адрозніваўся. — Страляй, а не тое сам зоймеш ягонае месца!

Сяржанту як ніколі моцна захацелася гарэлкі. Упіцца і забыцца пра ўсё. Хай і на час.

— Чаму не просіш за сябе?

— З часам вы ўсё зразумееце, грамадзянін сяржант, — з апошніх сіл адказаў зняволены.

— Я загадваю: страляй! — вочы капітана наліліся крывёю. Ён пацягнуўся за ТТ.

— Запасу акумулятарнай батарэі хопіць на сто пяцьдзясят гадоў. Усяго і трэба — увесці код актывацыі... Адзін…

Прагучаў стрэл — Шліфензон дабіў параненага.

— Сяржант?!

Наседкін аблізнуў перасохлыя вусны і, разумеючы, што ўслед за зняволеным можа надысці і яго чарга, прыцэліўся ў патыліцу цяжарнай. Рукі дрыжэлі. Нічога падобнага за ім раней не адзначалася. Таксама як і не з'яўлялася думак пра няправільнасць таго, што ён рабіў...

— Страляй!

Аднак спускавы кручок стаў нечакана тугім.

— Страляй жа, тваю маці! — гаркнуў капітан і, страціўшы цярпенне, пацэліў у сяброўку цяжарнай...

# РЫЦАРЫ БЕЗ СТРАХУ І ДАКОРУ,

## або Людзі, якія імкнуцца распавесці беларусам пра іх Краіну замкаў

**Яшчэ колькі стагоддзяў таму нашы землі называлі ў Еўропе краінай замкаў. Велічныя фартыфікацыйныя збудаванні сустракаліся на шляху падарожнікаў, уражваючы адметнасцю і прыгажосцю. Шмат падзей адбылося з таго часу. Замкаў паменшала. Але XXI стагоддзе вызначаецца тым, што яго новыя тэхналогіі, якія раней здаваліся фантастыкай, здольныя вярнуць былыя пабудовы і нават гарады з нябыту. З'явіліся людзі, якія бачаць сваю місію ў адраджэнні помнікаў гісторыі і культуры ці захаванні памяці пра іх. Адзін з іх — заснавальнік Фонду «Краіна Замкаў» Аляксандр Варыкіш — распавядае:**

— Фонд быў створаны ў 2006 годзе з мэтай дапамагчы дзяржаве ў адраджэнні помнікаў гісторыі і культуры ды іх захаванні. Таксама мы бралі ўдзел у распрацоўцы турыстычных маршрутаў па Беларусі. І з тае пары мэтанакіравана рухаемся ў вызначаных кірунках. Пры дапамозе фонду з'явіліся ўласнікі ў шляхецкім маёнтку ў вёсцы Бянюны Ашмянскага раёна. Раней там знаходзілася школа. Магчыма, будынак увогуле разабралі б. А цяпер у пабудовы 1828 года ёсць гаспадары, зацікаўленыя ў яе адраджэнні. Будзе новае жыццё і ў шляхецкага фальварка з цудоўным паркам у вёсцы Каралінава, што на Валожыншчыне. У Ашмянскім раёне, у вёсцы Родзевічы, атрымлівае другое жыццё шляхецкая ваколіца, дом 1918 года, які належаў шляхціцам Ракіцкім. Мы адрамантавалі дом, гаспадарчыя пабудовы. Фактычна ў Родзевічах з'явіўся найцікавейшы музейны экспанат — шляхецкі фальварак пачатку XX стагоддзя. Сюды ж перавезлі стары свіран. На базе комплексу ўтворыцца міні-скансэн. Узгаданае — толькі невялікая частка таго, што робіцца і што запланавана.

Так рэалізавалася маё дзіцячае захапленне гісторыяй, старажытнай архітэктурай, што нават змусіла змяніць прафесію. Пэўны час працаваў экскурсаводам, аб'ездзіў усю Беларусь. Гаварыў турыстам: «Мы маем тысячу гадоў цывілізацыі, культуры на нашых землях, і адначасова маем сёння як ілюстрацыю шматлікія руіны…» Вось тады, на пачатку сваёй працы экскурсаводам, і ўзнікла вялікае жаданне аднавіць хаця б адзін шляхецкі фальварак.

Паралельна з аднаўленнем старажытных будынкаў фонд распрацоўвае экскурсіі. Ды не стандартныя, а з анімацыяй. Людзі з задавальненнем выпраўляюцца ў такія вандроўкі. Падчас нашых падарожжаў адкрываецца іншы свет і, адпаведна, нараджаецца велізарная цікавасць да нацыянальнай спадчыны. Людзі хочуць зразумець, чым жылі іх продкі, якім было Вялікае Княства Літоўскае, Жамойцкае і Рускае.

**— Над анімацыйнымі праграмамі працуе асобная каманда?**

— Так. Некалькі дзясяткаў чалавек з гістарычных факультэтаў ВНУ і клубаў ваеннай рэканструкцыі задзейнічаны ў правядзенні анімацыйных дзеяў. Адна з найпапулярнейшых праграм — «Шляхецкая гісторыя». Перад гасцямі з'яўляецца герой у шляхецкім строі і прадстаўляецца: «Мяне завуць пан Невяроўскі. У мяне ёсць стрыечны брат пан Грабоўскі, якому ўжо за трыццаць, а ён усё ажанніца не хоча!..» Турыстычная група выпраўляецца ў госці, каб угаварыць пана Грабоўскага ажаніцца. Вандроўка ідзе на фоне падзей 1812 года. Госці едуць па шляхецкіх фальварках, наведваюць іншыя архітэктурныя і музейныя аб'екты. І ўсюды штосьці адбываецца. У Плябані, пад Маладзечнам, знаёміцца з панам Грабоўскім, у Залессі ў Агінскіх ладзяць агледзіны дзяўчыны. Сюжэтная лінія далей яшчэ больш закручваецца…

> *Паралельна з аднаўленнем старажытных будынкаў фонд распрацоўвае экскурсіі. Ды не стандартныя, а з анімацыяй. Людзі з задавальненнем выпраўляюцца ў такія вандроўкі. Падчас нашых падарожжаў адкрываецца іншы свет і, адпаведна, нараджаецца велізарная цікавасць да нацыянальнай спадчыны.*



*Аляксандр Варыкіш.*

**— А ці надараюцца адкрыцці падчас падрыхтоўкі экскурсій?**

— Вядома ж! І чым больш вывучаеш гісторыю, тым больш цікавага адкрываецца. Напрыклад, я ведаў, што ў Шчорсах, пад Навагрудкам, жыў граф Яўхім Храптовіч, які сабраў вялікую і багатую бібліятэку. Але, аказваецца, у яго быў сын Ірэнэуш, з якім звязана неверагодная гісторыя. Ён паехаў у Пецярбург, дзе закахаўся ў фрэйліну імператрыцы. А тая ўжо была заручаная з расійскім палкоўнікам. Але Ірэнэуш усе адно «пайшоў у атаку» па сэрца панны! Дзяўчына адрынула прапанову вайскоўца і згадзілася на прапанову графа. Палкоўнік у гневе выклікаў саперніка на дуэль і загінуў.

Альбо калі чытаеш пра Заслаўе, пра Яна Глябовіча… У яго таксама неверагодны лёс. Ян абараняў Полацк падчас Лівонскай вайны, трапіў у палон. Івану Грознаму данеслі, што Ян Глябовіч — пратэстант, добра ведае Біблію. Цар наблізіў Яна да сябе, размаўляў з ім наконт біблейскіх тэкстаў. Але мужны ліцвін у царскай сталіцы таемна збіраў звесткі для караля Рэчы Паспалітай. Гэтую дзейнасць заўважылі, і Глябовіча пасадзілі за краты. Ён ужо і не спадзяваўся на вызваленне, але яго абмянялі на палонных маскавітаў…

У нашай гісторыі такія сюжэты, што кінабаевікі, як кажуць, адпачываюць. Увогуле, вельмі багата гістарычных пластоў, якія не раскрытыя. Калі распрацоўваў вандроўку пад назвай «Шлях Міндаўга», доўга сядзеў над мапай, вышукваў варыянты, як усё ў адну экскурсію пакласці. У адзін момант убачыў як азарэнне канкрэтны маршрут, канкрэтны сюжэт: тут вандроўнікі сустракаюць Міндаўга, тут адбываецца каранацыя, тут, на возеры Свіцязь, забойства… У гэтым маляўнічым месцы, паводле плана падарожжа, прызначаны адпачынак. Зрэшты, экскурсія атрымалася вельмі прыгожая: цудоўныя пейзажы, казачныя замкі ў Міры, Любчы, Навагрудку.

Адна з задач фонду — выратаванне помнікаў драўлянай архітэктуры. Калі ў Родзевічах захаваецца хаця б некалькі помнікаў драўлянай архітэктуры, то яны дапамогуць ажывіць тутэйшы турыстычны маршрут.

**— Што залежыць ад прыватных асоб (не толькі ад дзяржавы), каб Беларусь зноў стала звацца Краінай замкаў?**

— Шчыра скажу, часам гляджу на сябе як на Дон Кіхота. Я ўсведамляю, што праз 20 — 30 гадоў шматлікія нашы помнікі без рэстаўрацыі могуць знікнуць. Але я раблю сваю справу. Ёсць разуменне: было б горш, калі б у Родзевічах разабралі старую пабудову. Калі б не было іншых цудоўных будынкаў, якія нам удалося ўратаваць… Такім чынам я і мае паплечнікі імкнёмся адрадзіць старажытную архітэктуру дзеля яе цяперашняга і будучыні.

**Наталія АЛЕСЯЕЎСКАЯ**

***Пуцявіны***

# З людзьмі — добра

Мой сябра, паэт Мікола Янчанка, доўгі час жыў у Рагачове і працаваў у раённай газеце. Сустрэліся мы ў жніўні 1959 года ў Мінску. Я, нядаўні малодшы сяржант, і мой сябар Мікола Залескі, былы матрос, стаялі на двары Белдзяржуніверсітэта каля дошкі аб'яў. Абмяркоўвалі ўступныя экзамены. Неўзабаве падышоў высокі інтэлігентны хлопец і таксама пачаў чытаць аб'явы. І раптам сарамліва, на беларускай мове, звярнуўся: «Хлопцы, я прыехаў з Рагачова, здаў дакументы ў прыёмную камісію. Ды вось недарэчнасць — няма дзе начаваць. Можа, падкажаце, дзе наняць кватэру».

Пазнаёміліся, даведаліся, што Мікола закончыў Магілёўскі педагагічны інстытут, настаўнічаў, працаваў у Рагачоўскай раённай газеце «Камунар». Але вельмі хацеў паступіць на аддзяленне журналістыкі філалагічнага факультэта. Нядоўга думаючы, я, у той час камсорг Мінскага будтрэсту № 4, супакоіў абітурыента: «Не хвалюйся! Мы жывём у новым інтэрнаце, і ў нас ёсць свабодны ложак. Так што шчыра запрашаем да нас. Будзем разам рыхтавацца да паступлення».

На трамваі даехалі да вуліцы Якуба Коласа, падняліся на чацвёрты паверх. Знайшліся і хлеб, і масла, і гарбата. Пачалося самае цікавае — знаёмства з незнаёмцам. Мікалай знайшоў момант заўважыць: «Добра, што мэта ў нас агульная, будзем дапамагаць адзін аднаму». Вельмі ўразіла, што наш «кватарант» — пачынаючы паэт, піша нават на палітычныя тэмы.

Сапраўды, не бывае выпадковых сустрэч і падзей. Утраіх мы адказна ішлі да мэты, не гублялі ні хвіліны! А Мікалай правёў для нас дыктанты, якія вельмі дапамаглі на ўступных экзаменах. Цяжка апісаць радасць, калі пасля паспяховай здачы экзаменаў нас прынялі ў БДУ, а Міколу Залескага — у медінстытут.

Кола жыцця набірала абароты. У 60-я гады мінулага стагоддзя я працаваў рэдактарам маладзёжных перадач Мінскай студыі тэлебачання, а Янчанка — адказным сакратаром Рагачоўскай райгазеты. Пісаў артыкулы і вершы, займаўся самаадукацыяй, вучыўся ў калег, пісьменнікаў. Прайшоўшы выдатна завочна першы курс на факультэце журналістыкі, з-за жыццёвых абставін пакінуў вучобу.

Таму асноўным сродкам сувязі паміж намі стала перапіска, хаця сябар не раз клікаў мяне ў Рагачоў у госці. У маім архіве ёсць не толькі шчырыя лісты Міколы, але і ўласнаручна напісаныя вершы, прысвечаныя сям'і, жонцы, дзецям.

Першы зборнік вершаў «Разнотравье» Янчанка выдаў у 1971 годзе, потым пайшлі зборнікі на беларускай мове — «Кросны», «Жыцейка-жыта», «З людзьмі — добра», «Зраблю сонейка», «Залаты вулей» і інш. Творы займальныя, з глыбокім сэнсам. Заўважаў, як смяецца сонейка, чуў, як звініць спелае жыта, як гамоніць лес. А нарысы пісаў не толькі пра перадавых рабочых, калгаснікаў, настаўнікаў, але і пра пісьменнікаў — Міхася Даніленку, Ігара Шклярэўскага, Анатоля Вярцінскага, сяброўствам з якім даражыў асабліва. Памфлеты друкаваліся ў газеце «Літаратура і мастацтва».

Мікола Янчанка запомніўся добразычлівым сябрам, з якім было лёгка, прыемна размаўляць.

У адным з лістоў да мяне (снежань 1978 года) паэт напісаў:

*Мне хапае красы, паверце, —*
*Рукапісных радкоў паэм.*
*Той, хто думае аб бясмерці,*
*Той задоўга да смерці памрэ.*

Мой сябар не думаў пра смерць — не было калі. Памёр Мікола ў чэрвені 2000 года, але жывуць яго вершы.

**Эдуард КАРНІЛОВІЧ**

# КАЗАНОВІЧЫ ГЕРБА «ГРЖЫМАЛА»: СЕРБСКІ СЛЕД

**Лаўрэата Спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь гістарычнага пісьменніка Анатоля Статкевіча-Чабаганава добра ведае айчынны чытач. Асабліва той, хто цікавіцца радаводамі знакамітых і меней вядомых нашых прашчураў. Распрацаваная і напісаная Анатолем Васільевічам серыя кніг «Летапіс беларускай шляхты». Чацвёрты з яе выпускаў — «Я — сын Ваш: Казановіч герба Гржымала».**

Пад адной вокладкай сабрана ўнікальная інфармацыя пра вядомых даследчыку продстаўнікоў гэтага слаўнага роду. З прадмовай да кнігі выступае князь Д. М. Шахаўскі, доктар гісторыка-філалагічных навук, прафесар гісторыі Рускай Царквы і рускай філасофіі Свята-Сергіеўскага багаслоўскага інстытута ў Парыжы, старшыня Радаводнай камісіі Саюза рускіх дваран. Ён, між іншым, узгадвае ў прадмове цытату з рамана «Хаджэнне па пакутах» Аляксея Талстога: «Генерал Казановіч стаяў на зрубе калодзежа каля чыгуначнай будкі і спакойна сачыў за граматнымі рухамі афіцэрскіх шарэнгаў, якія ішлі без адзінага стрэлу. Тонкі, выцягнуты твар яго, з напалову сівымі доўгімі вусамі і падстрыжанай бародкай (як насіў бацюхна імператар), быў насмешліва-засяроджаны, прыгожыя вочы халодна, з жаночым захапленнем, усміхаліся… Дзве батарэі, схаваныя за насыпам, адкрылі агонь. Нізка над шарэнгамі праціўніка ірваніліся ватныя клубкі шрапнэлі. <...> Другая рота адхлынула, залягла. Тады ён саскочыў з калодзежа і лёгка пабег па полі. Яго ўбачылі. Яму ўдалося падняць шарэнгу, ён закрычаў: "Панове, панове, сорамна!" Ён кінуў іх у штыкі...»

У свой час гэтыя словы душой і сэрцам прачытаў і Анатоль Васільевіч Статкевіч-Чабаганаў... Але прайшло нямала часу, перш чым ён рэалізаваў сваю задуму па стварэнні летапісу роду Казановічаў. А генерал-лейтэнант Казановіч — вядомы ўдзельнік белага руху на поўдні Расіі ў перыяд грамадзянскай вайны. У яго вобразе А. Талстой раскрыў абагульнены партрэт афіцэра Добраахвотнай арміі, якая ідэйна супрацьстаяла Чырвонай Арміі. Да канца свайго жыцця генерал Казановіч быў старшынёю Галоўнага праўлення Саюза ўдзельнікаў 1-га Кубанскага пахода і Таварыства афіцэраў Генеральнага штаба ў Югаславіі.

У сваёй кнізе А. Статкевіч-Чабаганаў прадставіў і ўспаміны Алены Казановіч, дачкі генерала, якая эмігравала падчас грамадзянскай вайны, а пасля, у 1950-я гг., разам з мужам вярнулася на радзіму. Сям'я Алены Казановіч захавала абраз Прасвятой Багародзіцы Магілёва-Брацкай, які ў жніўні 1995 года быў вернуты гораду Магілёву.

...Са старонак цікавага даследавання мы адкрываем многія падрабязнасці жыцця Казановічаў у эміграцыі. Спярша — у Турцыі, затым у Балгарыі. З дазволу балгарскага цара Барыса (стрыечнага брата Мікалая II) яны знайшлі сабе прытулак у Сараеве, затым у Бялградзе. Алена паступіла на вучобу на філасофскі факультэт Сарбонскага ўніверсітэта. У Бялградзе наша зямлячка выйшла замуж за Сяргея Карповіча (ураджэнец Барысава, выпускнік Віленскага пяхотнага вучылішча; у Першую сусветную вайну за мужнасць і подзвігі атрымаў шэсць царскіх ордэнаў). Жыццё ў эміграцыі ў садружнасці з добразычлівым сербскім народам паступова наладжвалася. Але пачалася Другая сусветная вайна. Да генерала Казановіча прыйшоў нямецкі афіцэр і прапанаваў узначаліць Рускую вызваленчую армію. Барыс Ільіч адмовіўся. І сказаў пры гэтым: «Хопіць крыві, яе і так шмат пралілі, супраць Расіі я ваяваць не пайду. Я адмаўляюся!»

Пасля вайны сям'ю Казановічаў чакалі новыя выпрабаванні. Узнік ідэалагічны канфлікт паміж Сталіным і югаслаўскім кіраўніком Іосіпам Броз Ціта. Пачалі праследаваць рускіх эмігрантаў. Барыс Ільіч на той час памёр. Брат Алены Барысаўны Міхаіл пераехаў у Канаду.

І вось што піша А. Статкевіч-Чабаганаў: «Сяргей і Алена Карповічы заўжды марылі вярнуцца на радзіму і сталі дамагацца дазволу на выезд у Савецкі Саюз. Тут Алене Барысаўне дапамог выпадак. Яна сябравала з масажысткай Іосіпа Ціта (звалі яе Жанкаю)… Па тым часе эмігрантам, якія выязджалі з Югаславіі, дазвалялася браць з сабою толькі асабістыя рэчы. Сяргею і Алене пашчасціла: дзякуючы клопатам Жанкі ім было дазволена ўзяць усю сваю асноўную маёмасць, што склала ажно тры кантэйнеры. Разважлівы Сяргей Карповіч паклаў каштоўныя рэчы ў розныя кантэйнеры: "усе яйкі не кладуць у адзін кош". І сапраўды, кантэйнеры па дарозе былі адкрыты, і частка рэчаў бясследна знікла.

Патрапіць у Беларусь можна было толькі праз Венгрыю, дзе ім давялося затрымацца на доўгіх пяць гадоў. Карповічы размясціліся ў прыгарадзе Будапешта. Сяргею Іванавічу ўдалося ўладкавацца на працу, Алена займалася хатняй гаспадаркай...»

З 1956 года Карповічы — у Беларусі. Сяргей Іванавіч пачаў працаваць у Міністэрстве будаўніцтва БССР. Працаваў сумленна. Неаднойчы атрымліваў ганаровыя граматы і розныя заахвочванні. Алена Барысаўна некаторы час выкладала нямецкую мову ў СШ № 41 горада Мінска. Гісторыю, архіў сям'і Карповічаў, іх памяць пра бацьку і цесця — генерала Казановіча — данесла да нашых дзён манахіня і блізкая знаёмая Алены Барысаўны Клаўдзія Сцяпанаўна Глазкова.

У кнізе А. Статкевіча-Чабаганва надрукаваны і ўспаміны А. Карповіч. Многія старонкі гэтага шчымлівага дзённіка — пра людзей знакамітых. Тут мы сустрэнем і рускага паэта Афанасія Фета, і пісьменніка Уладзіміра Дзядлова, і прафесара гісторыі мастацтваў Адрыяна Прахава, і мастакоў Васняцова, Несцерава. Адным словам, род Казановічаў, двум пакаленням якога на час быў дадзены прытулак у добразычлівай Сербіі, судакранальны з многімі цікавымі перыядамі ў гісторыі Расіі, Беларусі, Еўропы.

**Кастусь ЛАДУЦЬКА**

*Экскурс у мінулае*

# Лагойск. Стагоддзе таму

Першыя звесткі пра гэты горад датуюцца 1078 годам. У 1928-м настаўнік і краязнаўца Васіль Самцэвіч надрукаваў у часопісе «Наш край» артыкул з цікавымі звесткамі пра Лагойск. У допісе прыводзіўся і план мястэчка, які меў ужо статус райцэнтра, з галоўнымі вуліцамі, будынкамі і культавымі аб'ектамі розных канфесій. Цікава параўнаць той Лагойск з сённяшнім і прасачыць перамены даўжынёй амаль у стагоддзе.

Паводле Самцэвіча, у 1926 годзе ў Лагойску пражывала амаль 1780 чалавек (цяпер — 12,7 тысячы), налічвалася 695 будынкаў, працавалі шавецкая, кравецкая і шапачная арцелі, раённая бальніца на 15 месцаў, сямігадовая школа і бібліятэка. У студзені 1931 года выйшаў першы нумар раённай газеты «Чырвоная Лагойшчына».

На старым плане галоўная плошча Лагойска мае назву Чырвоная. У яе цэнтры стаяў драўляны будынак з шыльдай «Кааператыў», дзе прапаноўвалі розныя тавары: ад мануфактуры да солі. Вакол будынка — гандлёвыя лаўкі. Тры разы на год праводзіліся кірмашы: 19 мая — падчас святкавання вясенняга Міколы, 19 жніўня — на Спаса і 22 снежня — на Міколу зімняга. Вуліцы каля плошчы засялялі пераважна яўрэі — гандляры ці служачыя, таму на плане бачна: вялікіх зямельных надзелаў каля іх дамоў няма. Каля плошчы, прыкладна там, дзе сёння райвыканкам, была сінагога.

У самым пачатку вайны нямецкія акупанты знішчылі амаль усё яўрэйскае насельніцтва мястэчка разам з яўрэямі вёскі Гайна. Трагедыя, падчас якой загінула каля 1400 чалавек, адбылася 30 жніўня 1941 года непадалёк ад Лагойска, на месцы былога кар'ера. Цяпер там усталяваны два помнікі: ахвярам Халакосту і загінуўшым у вайну партызанам, падпольшчыкам і мірным жыхарам.

На плане Лагойск знаходзіцца ў лагчыне — на правым беразе Гайны, а на левым — касцёл і рэдкія пабудовы, у тым ліку пошта. Беларусы і палякі, якія ў асноўным займаліся сельскай гаспадаркай, жылі на ўскрайку мястэчка (на карце пунктырнай лініяй паказаны межы іх зямельных надзелаў).

У 1938 годзе Лагойск атрымаў статус гарадскога пасёлка. На Замкавай гары стаяў палац Тышкевічаў, дзе размяшчаліся райкамы партыі і камсамола, міліцыя. Адступаючы, немцы вельмі разбурылі палац. На жаль, цяпер ад велічнага будынка засталіся толькі два фрагменты цаглянай сцяны. А сам палац можна ўбачыць на старых фотаздымках ды на малюнках Напалеона Орды.




Пры адступленні з Лагойска ў ліпені 1944 года немцы спалілі шмат дамоў, асабліва ў цэнтры. Пасля вызвалення на левым беразе Гайны з'явіліся новыя вуліцы. Лагойск, як і многія іншыя беларускія мястэчкі, прайшоў шлях ад драўляных хат да дамоў з цэнтральным ацяпленнем і каналізацыяй. Сёння горад расце і ўверх: многа шматпавярховак.

Раней на рацэ працаваў млын. Глыбіня Гайны вагалася ад 2 да 5 метраў, было многа віроў, шмат рыбы. Плаціна, пабудаваная на рацэ, рэгулюе сток вады, і Гайна выглядае шырокай і паўнаводнай, праўда, толькі ў межах горада. На жаль, рака абмялела... А раней па Гайне і Бярэзіне сплаўлялі лес да Барысава на запалкавую фабрыку.

Госці Лагойска звяртаюць увагу на адметнасць вуліцы Савецкай, на веліч Свята-Мікалаеўскай царквы і касцёла Святога Казіміра. Завітваюць у музей імя К. і Я. Тышкевічаў, галерэю мастака і паэта Сяргея Давідовіча, узнімаюцца на Паненскую гару і любуюцца скульптурнай кампазіцыяй «Божай Маці "Знаменне" Лагойская».

**Аляксандр ПАЎЛЮКОВІЧ**

*Цікава ведаць*

# ПА АДЗЕННІ СУСТРАКАЛІ…

**Унікальную калекцыю жаночага адзення XIX — пачатку XX стагоддзя з фондаў Музея старажытнабеларускай культуры НАН Беларусі можна ўбачыць у Жодзінскім краязнаўчым музеі. А яго супрацоўнікі азнаёмяць наведвальнікаў з моднымі тэндэнцыямі тых часоў.**

Гардэроб нашых прапрабабулек мог распавесці вельмі шмат. Напрыклад, 100 — 200 гадоў таму па адзенні пазнавалі, адкуль жанчына родам, ці замужам яна, які яе сацыяльны статус. А па тым, наколькі майстэрская на ўборы вышыўка, меркавалі пра гаспадарскія здольнасці жанчыны: калі шыўкі акуратныя, «адзін да аднаго», то і ў хаце будзе парадак!

Унікальнасці беларускіх касцюмаў аддаваў належнае і Пётр I — палескія строі дагэтуль захоўваюцца ў знакамітай кунсткамеры і выклікаюць вялікую цікавасць не толькі ў наведвальнікаў, але і ў этнографаў. Тут можна ўбачыць «намётку» — старажытны жаночы галаўны убор, які завязваўся традыцыйным спосабам.

Наведвальнікі жодзінскай выстаўкі ўбачаць адзенне жыхароў не толькі Палесся, але і Старадарожскага, Бярэзінскага раёнаў Міншчыны, брэсцкі строй. Ёсць магчымасць параўнаць асаблівасці касцюмаў кожнага з рэгіёнаў, навучыцца чытаць узоры, нават узяць удзел у інтэрактыўнай гульні «Апрані беларускую прыгажуню».

**Міра ІЎКОВІЧ**

# У беларускім стылі

## Як айчынныя «тэкстыльшчыкі» і мадэльеры рэалізуюць сябе?

**Ці часта вам на вочы трапляюць буцікі з беларускім дызайнерскім адзеннем альбо вырабамі тэкстылю? Толькі нядаўна ў Мінску быў адкрыты гандлёвы цэнтр «Галерэя Мінск», дзе выдзелена вялікая пляцоўка для продажу вырабаў беларускіх дызайнераў. Гэта першы такі вялікі шоу-рум у краіне.**

Дарэчы, адзенне вельмі якаснае і стыльнае, якое з задавальненнем можна набыць, сфарміраваць вобраз на любы выпадак. Калі грошы дазваляюць (каштуе нятанна), то можна быць упэўненым у непаўторнасці свайго выгляду. І ў мастакоў, што распрацоўваюць адзенне, з'явіліся надзеі.

Пра іх могуць марыць тыя, хто працуе з габеленам, тэкстыльнай скульптурай. Тое, што могуць прапанаваць мастакі, практычна не трапляе на прылаўкі крам: вырабы экспануюцца толькі на выстаўках. Набыць іх іншым чынам звычайнаму чалавеку, які не знаёмы з мастакамі асабіста, амаль немагчыма. Атрымліваецца, што глядач, ён жа спажывец, не ведае магчымасцей нашых мастакоў. Таму яны імкнуцца вырашыць гэту задачу, імкнуцца трымаць тэкстыль на ўзроўні, які быў дасягнуты ў перыяд росквіту тэкстыльнай прамысловасці ў Беларусі.

У Беларусі тэкстыльшчыкаў і мадэльераў рыхтуюць на факультэце дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва Беларускай акадэміі навук, якому сёлета спаўняецца 40 год. З нагоды юбілею ў арт-гасцёўні «Высокае места» дэманструецца выстаўка «Грані» выпускнікоў і студэнтаў кафедры тэкстылю і касцюма Беларускай акадэміі мастацтваў. Экспедыцыя адлюстроўвае ўзровень сучаснага тэкстылю і накіравана звярнуць увагу людзей на здольнасці маладых творцаў.

Выпускнікі кафедры касцюма і тэкстылю ідуць потым працаваць у тым ліку на заводы, якія займаюцца вытворчасцю тканіны, ці на прадпрыемства «Блакіт». Некаторыя студэнты імкнуцца працаваць у тэатрах: тут якраз велізарная прастора для рэалізацыі фантазіі пры падрыхтоўцы касцюмаў для спектакляў. Ужо падчас навучальнага працэсу студэнты-мадэльеры спрабуюць удзельнічаць у зборных паказах, час ад часу арганізоўваюць уласныя. «Тэкстыльшчыкі» актыўна працуюць у кірунку эксперыментальнага тэкстылю, выязджаюць за мяжу, імкнуцца выйсці на новы ўзровень. Аднак гэта не так і лёгка, улічваючы дасягненні папярэдніх пакаленняў выпускнікоў, якіх падрыхтавала кафедра.

— Беларускі габелен яшчэ ў пачатку развіцця ў краіне стаў нашай візітнай карткай, — адзначае мастацтвазнаўца Ларыса Фінкельштэйн. — Па нашым тэкстылі іншыя краіны даведваліся пра Беларусь, і толькі потым далучыліся жывапіс, графіка, скульптура. Аляксандр Кішчанка і Генадзь Гаргуноў у Барысаве заснавалі цэх габелена, але не было прытоку майстроў, таму што не было кафедры, якая іх падрыхтавала. Валянціна Бартлава стала заснавальнікам кафедры тэкстылю і касцюма, практычна з нуля яе стварыла. З аднадумцамі яна павярнула тэкстыль у бок наватарства. Займалася не толькі захаваннем традыцый, але і паспрыяла станаўленню эксперыментальнай школы, вялікай творчай свабоды ў гэтым кірунку мастацтва. З таго часу тэкстыль вельмі страпянуўся, «адышоў» ад сцяны, з'явілася мноства прасторавых работ. Той эксперыментальны тэкстыль закінуў у нашы душы ідэю новага, аб'ёмнага. Спадзяюся, што выбух наватарства творчасці і захаванне ў ёй нацыянальнай традыцыі (толькі не ў звычайным перанясенні арнаменту, а ў вялікай стылізацыі, адчуванні формы, колеру і псіхалогіі народных традыцый) будзе працягваць новае пакаленне студэнтаў.

Творчая моладзь рухаецца наперад і ўсё больш імкнецца паказваць сваё майстэрства. Сёння з гэтым лягчэй, таму што інтэрнэт дапамагае рэкламаваць сябе. Напрыклад, мадэльеры праз сацыяльныя сеткі прапануюць пашыць адзенне на заказ, прычым з добрай тканіны і па прымальнай цане. Па каментарах і лайках зразумела: попыт ёсць — мода на індывідуальнае, непаўторнае, напэўна, будзе існаваць заўсёды. З работамі «тэкстыльшчыкаў» складаней: іх у асноўным набываюць для ўпрыгожвання офісаў, вялікіх адміністратыўных будынкаў альбо канцэртных, тэатральных пляцовак. Але цікава, што практычна ўсе маладыя творцы імкнуцца рабіць акцэнт на псіхалогію чалавека, прываблівяюць людзей арыгінальнымі формамі. І тут ужо ролю адыгрывае адукацыя: тонкасці мастацтва можна адчуць падчас навучання альбо з досведу.

— Адукацыя Акадэміі мастацтваў гучыць, аднак дыплом яшчэ не гарантуе поспеху. Працадаўцы цікавяцца, ці ўмее чалавек мысліць арыгінальна, ці валодае камунікатыўнымі здольнасцямі, ці можа быць эфектыўным, — расказала загадчык кафедры тэкстылю і касцюма Беларускай акадэміі мастацтваў Маргарыта Шчамялёва. — Гэтаму мы і стараемся навучыць. Сёння зрушылася дамінанта: выкладчык не вычытвае інфармацыю з падручнікаў, не дае тое, што ёсць у віртуальнай прасторы. Нашы педагогі якасна даносяць інфармацыю, таму што яны мастакі, ведаюць тонкасці гэтай прафесіі. Мы вельмі шмат працуем над тым, каб студэнты разумелі асновы кампазіцыі, колеразнаўства, эскізнай графікі. Да таго ж, вялікую ролю надаём рабоце ў матэрыяле: чалавеку, каб разумець тэорыю, трэба намагацца яе рэалізаваць на практыцы. Мы ставім акцэнт на эксперыментальнае формаўтварэнне, якое вядзе чалавека ў будучыню, хоць класіка і акадэмічная школа застаюцца грунтам. Паколькі набіраем не так шмат студэнтаў, практыкуем індывідуальную працу з кожным.

Сапраўды, часта ў творчасці маладых можна заўважыць сумяшчэнне навізны ідэй і класічнага стылю. Гэта нават своеасаблівая «фішка»: з цягам часу мы не губляем гісторыю, а працягваем яе ў новым прачытанні. Ёсць такая тэндэнцыя: мадэльеры, асабліва якія выстаўляюць работы на паказах, выкарыстоўваюць нацыянальны арнамент, толькі не адлюстроўваюць яго ў звыклым чырвоным колеры, а выбіваюць праз пэўныя формы (таму арнамент набывае колер вопраткі) альбо ўвогуле ў нечаканых адценнях. Шкада, што такія рэчы мы бачым, толькі калі запрошаныя на паказ: людзі, якія ніяк не звязаныя з індустрыяй моды, будуць па-ранейшаму ісці туды, дзе прадаецца адзенне замежных брэндаў. Нам бы такі піяр...

— Мадэльеры вельмі малымі сродкамі робяць якасныя калекцыі, але пра гэта чамусьці не гавораць. Усе могуць толькі крытыкаваць. І мне шкада, бо бываюць вельмі стыльныя, выразныя калекцыі, — адзначае Маргарыта Шчамялёва. — Існуе праблема рэалізацыі гэтых рэчаў: масмаркет псуе густ. Аднак жа маладыя даказваюць, што ў нашай краіне могуць ствараць прыгожа і якасна, захоўваючы нацыянальныя адметнасці. Я часта назіраю, што студэнты ў захапленні ад таго, як можа арнамент прыгожа ўжывацца ў сучаснай вопратцы, разумеюць, што свету будзе зусім не цікава, калі мы будзем пераймаць досвед іншых краін. Калі пачнём капіраваць тэндэнцыі іспанскай альбо французскай моды, то гэта мала каго зацікавіць у свеце: гэта ўжо ёсць. Патрэбна індывідуальнасць. Мне часта кажуць, што ў краіне вельмі сумная карціна з той жа беларускай модай. Пра што мы гаворым, калі людзі нават не спрабуюць убачыць гэтую моду, не ходзяць на паказы, выстаўкі, не шукаюць майстроў, каб пазнаёміцца з іх адзеннем? Гэта азначае, што народ не ведае сітуацыю знутры. А ў нас, паверце, ёсць людзі, якія прэзентуюць унікальныя вырабы, якія вылучаюцца густам, колеравымі спалучэннямі.

Калі кажуць пра модныя і тэкстыльныя праекты ў іншых краінах, гаворка ідзе пра шматмільённыя бюджэты, а Беларусі яшчэ давядзецца папрацаваць над прыцягненнем інвестыцый у гэтыя кірункі. Таму маладыя мастакі імкнуцца выязджаць на замежныя выстаўкі, дзе іх работы заўважаюць і нават набываюць.

— Маладыя мадэльеры, «тэкстыльшчыкі» досыць часта ўдзельнічаюць у міжнародных выстаўках, — расказвае студэнтка чацвёртага курса кафедры касцюма і тэкстылю Беларускай акадэміі мастацтваў Ірына Банькоўская. — Як ні дзіўна, у краіне такіх выставак практычна няма, а вось за мяжой да нас праяўляюць цікавасць. І, калі шчыра, калі сам выязджаеш на міжнародную выстаўку, прачынаецца гонар: мастацтвазнаўцы, госці мерапрыемства бачаць, на што мы здольныя і як любім нашы традыцыі, культуру. У многіх краінах на мастацтва глядзяць па-іншаму, ацэньваюць, можна сказаць, па любові да сваёй радзімы. У Беларусі ўзяць удзел у выстаўках не надта проста: не заўсёды ў маладых людзей ёсць досвед для гэтага, а выставачныя пляцоўкі ў большасці робяць стаўку на мастакоў з імёнамі.

На жаль, прыток навучэнцаў, якіх рыхтуе кафедра касцюма і тэкстылю Беларускай акадэміі мастацтваў, цяпер не надта вялікі. Напрыклад, у той жа Польшчы, дзе стаўку робяць на сучасны тэкстыль, на форму яго падачы, а жыхары краіны набываюць тэкстыльныя рэчы для інтэр'ера, гэта добрая матывацыя для абітурыентаў, каб выбраць такую прафесію.

— Тое, што нас не ведаюць, — істотная праблема, таму «тэкстыльшчыкам» і мадэльерам у цяперашні час цяжка заявіць пра сябе, паказаць свае магчымасці ў краіне. Раней імёны тэкстыльшчыкаў былі на слыху, але паступова сітуацыя змянілася. Мы адсунутыя павевамі жывапіснай, скульптурнай плыні, не кажучы ўжо пра папулярны ў наш час графічны дызайн, — разважае Ірына Банькоўская. — Калі расказваю сваім знаёмым пра спецыяльнасць, сутыкаюся са стэрэатыпам, што тэкстыль — нешта архаічнае, даўно забытае. Аднак, насуперак меркаванням, на нашай спецыяльнасці вучацца людзі, якія жывуць навізной і азартам, якія штодня ў пошуку натхнення.

І ёсць маладыя творцы, неабыякавыя да захавання традыцый і да развіцця айчыннай тэкстыльнай галіны з дапамогай арыгінальных ідэй. Асабліва радуе, што ў нашай краіне апошнім часам сталі з'яўляцца такія цікавыя праекты, як *honor.by* — інтэрнэт-крама, дзе прадаецца жаночае і мужчынскае адзенне, аксесуары з беларускімі матывамі з якасных матэрыялаў. І ўсё гэта даступна для сучаснага спажыўца. Радуе, што моладзь не толькі спараджае ўнікальныя ідэі, але і даводзіць іх да рэалізацыі.

**Вікторыя АСКЕРА,**
**фота аўтара**



*Наталля Хацько «Сусвет», 2000 г.*



*Хрысціна Высоцкая «Лінія лёсу», 2015 г.*

# ЯКАЯ ТЫ, БАТЛЕЙКА?

Театру «Батлейка Алеся Лася» за спектакль-інтэрмедыю «Цар Ірад» прысудзілі дыплом «За вернасць традыцыям нацыянальнай культуры». Акрамя выступлення, этнограф правёў майстар-клас па батлеечным мастацтве і падзяліўся з аўдыторыяй звесткамі з гісторыі батлейкі. Лекцыю па сцэнічных магчымасцях традыцыйнага вяртэпнага (і батлеечнага) тэатра правёў расійскі госць Аляксандр Грэф. Разам з Аляксандрам Грэфам, Ганнай Выгоннай і Кацярынай Яромінай у якасці экспертаў прайшоў семінар-практыкум, які закрануў нацыянальныя асаблівасці і сучасны стан лялечных ды батлеечных тэатраў.

Відавочна, што адна з галоўных задач фестывалю была ў тым, каб навучыць гледачоў і аматараў батлейкі новаму, а не толькі ацаніць выступы тэатраў. Дзеля гэтага арганізатары надалі шмат увагі аматарскім калектывам. Дыплом «За лепшы дэбют» атрымаў калектыў «Клас "А"» гімназіі № 74 горада Мінска, які прадэманстраваў сваю версію традыцыйнага спектакля «Цар Ірад» на беларускай мове. Ажно дзве ўзнагароды прысудзілі батлейцы сямейнага клуба Беларускага зялёнага крыжа: на сцэне перад гледачамі з'явіліся дзеці і бацькі з сям'і Юнгіных, каб разам распавесці біблейскую гісторыю. Журы не паскупілася на ўзнагароды: дыплом атрымаў амаль кожны тэатр, што сведчыць пра намер фестывалю развіваць батлейку не праз канкурэнцыю, а шляхам заахвочванняў.

Трэба заўважыць, што «Нябёсы» — хрысціянскі фестываль. Ён ладзіцца пад эгідай Свята-Елісавецінскага манастыра і па блаславенні мітрапаліта Мінскага і Заслаўскага Паўла. Фестываль, што праходзіць пад дэвізам «З лялькай да Бога», зрабіў заўважны акцэнт на працы з дзецьмі. Для іх падрыхтавалі шмат цікавых майстар-класаў, гульняў, спектакляў-прытчаў з выхавальнымі мэсэджамі. З сюрпрызам для дзіцячай аўдыторыі прыехалі і пераможцы III Міжнароднага каляднага фестывалю батлеечных ды лялечных тэатраў — расійскі калектыў «Душагрэі». Пасля свайго выступу ўладальнікі Гран-пры фестывалю сабралі маленькіх гледачоў гуляць у рускія народныя гульні пад акампанемент народных інструментаў ды спеваў. Спектакль пераможцаў складаўся з двзюх частак: класічна-батлеечнай, дзе ў прыгожай, падобнай да сапраўднага палаца, скрыні разгортваліся падзеі віфлеемскай гісторыі, і драматычнай, з жывымі акцёрамі, дзе паказалі вясёлыя падзеі з народнага жыцця. Праграма «Душагрэяў» атрымалася вельмі каларытнай і аўтэнтычнай, а падчас іх выступу смяяліся не толькі дзеці, але і дарослыя!

Міжнародная праграма фестывалю, забяспечаная супрацоўніцтвам з міжнароднай асацыяцыяй «Вандроўныя лялечнікі», пашырыла межы ўспрымання батлейкі. Аматары лялечнага мастацтва ўбачылі не толькі класічныя скрыні з дзействам на класічны сюжэт, але і нечаканыя рашэнні. Напрыклад, польскі тэатр-студыя «БЛЮМ» з горада Познань паказаў гісторыю нараджэння Хрыста пад акампанемент віяланчэлі, замест лялек выкарыстоўвалі… паленні. І гэта было цікава! Артысты дазвалялі дзецям памацаць шурпатае дрэва, частавалі іх свежым хлебам — атрымаўся своеасаблівы інтэрактыў.

Удзел у фестывалі замежных калектываў паказвае беларускаму гледачу разнастайнасць сцэнічных падыходаў да каляднай гісторыі і ў той жа час падкрэслівае адрозненне батлейкі ад іншых лялечных тэатраў, дэманструе яе арыгінальнасць. А гэта ўжо шмат: часам асэнсаванне ўнікальнасці свайго мастацтва становіцца пачаткам і любові да яго, і пашаны, і жадання захаваць тую творчасць для нашчадкаў.

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**



Фота Кастуся Дробава.

*Падчас выступу тэатра «Батлейка Алеся Лося».*

**Дырэктар міжнароднай асацыяцыі «Вандроўныя лялечнікі», мастацкі кіраўнік тэатра «ТрыЛікі» Віктар Драгун:**

— Арганізатары «Нябёсаў» выйшлі на нашу асацыяцыю пасля свайго першага фестывалю, калі пачалі пашыраць праграму. Летась у Беларусь прыехаў толькі тэатр «ТрыЛікі» (Расія, Масква) з класічным спектаклем «Вертеп». Сёлета мы паказалі казку «Чорная курыца», бо ў другі раз вырашылі не везці адно і тое ж: конкурсны фестываль патрабуе разнастайнасці. Дарэчы, падчас III фестывалю батлеечных і лялечных тэатраў ад асацыяцыі «Вандроўных лялечнікаў» Свята-Елісавецінскі манастыр наведалі ўжо 9 тэатраў! У наступным годзе плануецца пашырыць міжнародную праграму, і ў Беларусь прыедуць калектывы з большай колькасці краін.

Магчымасцей для гэтага ў нас шмат: «Вандроўныя лялечнікі» складаюцца з расійскіх, беларускіх, украінскіх, літоўскіх, эстонскіх, балгарскіх, славацкіх, польскіх і нават іспанскіх тэатраў — усяго каля дваццаці калектываў. Сама арганізацыя была ўтворана маскоўскім тэатрам «ТрыЛікі» і гродзенскім тэатрам «Правінцыя». У 2010 годзе трупа «ТрыЛікі» ладзіла фэст «Маскоўскія канікулы», і сярод запрошаных калектываў быў беларускі тэатр. Там пазнаёміліся, пасябравалі, з'явіліся сумесныя ідэі, і ў рэшце рэшт мы вырашылі аб'яднаць намаганні: прыватнікам (у нашу асацыяцыю ўваходзяць толькі прыватныя тэатры) складана «выжываць» паасобку. Пасля да нас пачалі накіроўвацца заяўкі, сабралася каманда. Зараз тэатры арганізацыі «Вандроўныя лялечнікі» і самі праводзяць мерапрыемствы, і ездзяць па розных фестывалях, нават робяць агульныя гастролі — праца ідзе круглы год. Існуюць сумесныя праекты, калі аб'ядноўваюцца некалькі тэатраў. Так, сёлета на сцэне нядзельнай школы Свята-Елісавецінскага манастыра мы, «ТрыЛікі», паказалі сумесны спектакль «Байкі шляхціца Завальні. Чорны певень і Цмок» з гродзенскай «Правінцыяй».

**Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.**

# У Пушкінскай эпосе

## Падчас балю назвалі лепшых артыстаў Вялікага тэатра Беларусі

Вечар старога Новага года пачынаўся ў лепшых навагодніх традыцыях мінулых стагоддзяў: на парк, тэатр і лесвіцу перад галоўным уваходам з неба сыпаўся снег. Нягледзячы на тое, што замест экіпажаў да прыступак пад'язджалі сучасныя аўтамабілі, прыгажуні дамы ў бальных сукенках, абапіраючыся на рукі элегантных кавалераў, выходзілі з іх не горш за графінь ды баранес. «Зорка, проста зорка!» — з такімі словамі сяброўкі, калегі ды проста знаёмыя жанчыны разглядалі туалеты адна адной, назіраючы за цудоўным пераўвасабленнем звычайнай хатняй гаспадыні ці бізнес-лэдзі ў вытанчаную арыстакратку. Ці магло быць інакш? На адну ноч госці Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра Беларусі патрапілі на сапраўдны Вялікі навагодні баль!

У гэты вечар цяжка было сказаць, дзе артыстка Вялікага тэатра, а дзе звычайная наведвальніца балю. Ды і прымераць на сябе акцёрскае амплуа мог кожны: дастаткова падысці ў адпаведны куток залы. Акрамя фотасесіі ў касцюмах са спектакляў тэатра, гасцям далі магчымасць папрацаваць з рэжысёрам Сяргеем Гіргелем у кінастудыі «Пушкін. *Cinema.by*». Імя Аляксандра Сяргеевіча згадвалася на працягу ўсёй імпрэзы. Гэта і праграма конкурсаў ды рамансаў пад агульнай назвай «Пушкініяда» ў Камернай зале, і персанажы «Яўгена Анегіна» на Пушкінскім балі, і героі знакамітых казак — Кот вучоны ды Залатая рыбка — у фотазонах… Цікава абсталяваных фотазон, дзе дамы разам з кавалерамі маглі захаваць на камеру незвычайныя вобразы гэтага вечара, арганізавалі шмат. Але фотаздымкі — гэта занадта сучасна, згодныя? З гасцей такога балю неабходна было пісаць партрэты! Менавіта таму выявы наведвальнікаў маляваў спецыяльна запрошаны ў Вялікі тэатр мастак.

Атмасфера на балі склалася такая, што міжволі з'яўлялася думка: раптам сярод гасцей сапраўды ёсць дваране? У Гістарычным салоне члены Мінскага згуртавання нашчадкаў шляхты і дваранства высвятлялі прыналежнасць да старажытных сем'яў.

Якія ж Каляды без варажбы ў святочную ноч? Варажыла Святлана з паэмы Жукоўскага, варажыла зімній ноччу Таццяна Ларына, варажылі і жанчыны на Вялікім навагоднім балі. Чарга разрывалася паміж абозам цыганкі, што раскладвала карты таро, і сталамі сучасных астролагаў, якія складалі астралагічныя прагнозы па даце нараджэння на ноўтбуках. Лёгкім рэхам эпохі рамантызму, вядомай любоўю да ўсяго ўсходняга, сталі рызыкоўны выступ з нажамі ды шаблямі ад Фахрадын-шоу і роспіс хной па целе — мехендзі.

Але ж у першую чаргу Вялікі тэатр ладзіў менавіта баль. Музычная частка вечара пачалася з выступу струннага квінтэта «Серэнада» і пацяху перайшла ў Пушкінскі баль, дзе пад кіраўніцтвам заслужанай артысткі Рэспублікі Беларусь Юліі Дзятко перад гледачамі выступалі не артысты Вялікага, а дэбютанты і больш спрактыкаваныя карыфеі з ліку наведвальнікаў імпрэзы. Венскі баль запрасіў далучыцца да танцаў не толькі тых, хто загадзя рыхтаваўся да выступу, але і ўсіх гасцей. Камерная зала прапанавала цікавую музычную праграму. На суд слухача — спаборніцтва «Тэнары супраць басоў», а падчас традыцыйнага для Новага года «Блакітнага агеньчыка» госці маглі праспяваць улюбёныя навагоднія песні разам з таленавітымі артыстамі.

Цэнтральнай падзеяй вечара стаў канцэрт-сюрпрыз «Класіка *New*» у суправаджэнні сімфанічнага аркестра пад кіраўніцтвам дырыжора Андрэя Галанава. На пачатку канцэрта традыцыйна ўручылі навагоднія тэатральныя прэміі ад ЗАТ «БелСвісБанк», якія, па выніках галасавання артыстаў Вялікага тэатра, сёлета атрымалі заслужаны артыст Рэспублікі Беларусь, саліст оперы Аляксандр Кеда, вядучы майстар сцэны балетнай трупы Ігар Аноўка, артыстка балета Вікторыя Бягініна, артыст аркестра Аляксей Афанасьеў ды артыст хору Аляксандр Фокін.

Выступоўцы Вялікага тэатра з'явіліся на запарушанай снегам сцэне, каб падарыць гледачам святочны настрой: яны танцавалі, спявалі, вадзілі карагоды, пілі шампанскае і жартавалі. Нават прадэманстравалі жывую спявачку-ляльку ў ружовай сукенцы, якая раз-пораз прыпыняла спевы з-за неабходнасці быць заведзенай ізноў. У гэткай вясёлай афарбоўцы нават нумары з бягучага рэпертуару тэатра рабіліся амаль непазнавальнымі. Вялікі баль працягваўся да чатырох гадзін раніцы. Калі госці выйшлі з тэатра, перад іх вачамі паўстаў цудоўны заснежаны парк. Здавалася, сама зіма дапамагла арганізатарам Вялікага балю завяршыць зачараваны вобраз навагодняй казкі.



Фота Марыі Войцік.

*Першы танец на Пушкінскім балі ў Вялікім тэатры Беларусі.*

**Дар'я ЧАРНЯЎСКАЯ**

# БЕЛАРУСКІЯ КАНІКУЛЫ АМЕРЫКАНСКАГА «ГЛОБУСА»

Сёлетні «Залаты глобус» паставіў некалькі рэкордаў: неверагодна многа крапальных прамоў ад вядомых актрыс, шмат вартых фільмаў. Рэкардсмен па колькасці ўзнагарод за ўсю гісторыю прэміі — фільм «Ла-Ла Лэнд». «Залатой» стужкі ўжо прадказваюць і перамогу на «Оскары», а пакуль з лаўрэатам могуць пазнаёміцца і беларускія гледачы: «Ла-Ла Лэнд» Дэмьена Шазела паказваюць у 10 гарадах краіны.

Рэжысёру толькі 31 год, але яго мінулае кіно «Апантанасць» атрымала 3 прэміі «Оскар», а фільм «Ла-Ла Лэнд» адкрываў Венецыянскі фестываль (канечне ж, адно з важных дасягненняў — перамога на «Залатым глобусе» — дзе стужку ўзнагародзілі за лепшыя рэжысуру, сцэнарый, музыку і фільм. Таксама адзначылі і лепшыя песню, актрысу і акцёра. Упершыню з 1944 года фільм атрымлівае ўзнагароды ва ўсіх намінацыях, дзе ён быў прадстаўлены).

Варта ўзгадаць мінулагодні фільм Шазела «Апантанасць» (ён таксама звязаны з музыкай), які ў свой час выклікаў вялікую цікавасць гледачоў на Мінскім міжнародным кінафестывалі «Лістапад». Музычны свет заўсёды цікавіў рэжысёра, гэта яго ніша — так камфортна ён там пачуваецца. Уласная гісторыя кінематаграфіста часткова знайшла выхад і ў «Апантанасці». Менавіта таму і яго новае кіно адзначылі ў музычным плане: яно таксама зроблена таленавіта.

Хоць сюжэт «Ла-Ла Лэнд» скіраваны ў музычным напрамку, кіно зусім не пра тое. Малады джазавы музыкант (Раян Гослінг) і спявачка, якая не губляе надзеі на папулярнасць (Эма Стоўн), разам будуць шукаць сябе і ў прафесіі, і ў жыцці. Музыка ідзе поруч з героямі ўвесь фільм, але ўвагу рэжысёр фіксуе на тэме асабістага поспеху. «Ла-Ла Лэнд» — у першую чаргу кіно пра людзей, якія мараць, але мары не заўсёды спраўджваюцца, а таксама пра тое, што часам шчаслівым можна стаць і без гэтых мар, а з зусім супрацьлеглымі.

Дарэчы, акцёры зрабілі сваю працу «ад і да»: вучыліся іграць на фартэпіяна як прафесійныя музыканты, спявалі, вывучалі бальныя танцы і чачотку. Каб паглыбіцца ў настрой часоў старога Галівуда, здымачная група глядзела «Шэрбурскія парасоны», «8 з паловай», «Тыя, што спяваюць пад даждом». Канечне, на фільм выдаткавалі 30 мільёнаў долараў (і знялі за 2 месяцы) — такія бюджэты беларускім кінематаграфістам і не сніліся. Але адсюль і заўважны вынік: кожная новая работа Шазела — не толькі праява выдатнага валодання прафесіяй, але і гарачай любові да кіно.


Кадр з фільма «Ла-Ла Лэнд».

Магчыма, гледача крыху спужае жанр, у якім зняты «Ла-Ла Лэнд». Гэта мюзікл і камедыя ў адным флаконе. Але калі камедыя для нас жанр вядомы (ужо нават крыху надакучыў), то мюзіклы здымаюць не так часта, а калі і здымаюць, то яны рэдка бываюць вартымі ўвагі. Новая стужка Шазела — сумяшчэнне, як кажуць, прыемнага з карысным, аўтарскай музыкі і выдатнай акцёрскай ігры.

У Беларусі мюзіклаў зараз не здымаюць. Але нішу запоўніць часам хочацца. І хочацца чымсьці добрым: «Ла-Ла Лэнд» — кіно, вартае хаця б таму, што на «Залатым глобусе» яго адзначыла Галівудская асацыяцыя замежнай прэсы. Але вельмі каштоўным для беларускага гледача будзе падарожжа не столькі ў атмасферу Лос-Анджэлеса, колькі і «адыход ад жорсткай рэальнасці ў краіну фантазій» (значэнне выразу «Ла-Ла Лэнд»).

# Кароткаметражнае падарожжа

Паглядзець кароткаметражнае кіно запрашае Музей гісторыі беларускага кіно. Сумесна з міжнародным фестывалем кароткаметражнага кіно *Cinema Perpetuum Mobile* музей ладзіць новы праект *KINOPORT*. На працягу ўсяго года мінскі глядач кожны месяц зможа не толькі глядзець лепшыя кароткаметражкі, але і паглыбляцца ў міжнароднае кінажыццё.

Кожны месяц арганізатары будуць паказваць падборку кароткаметражнага кіно з новай краіны. Такім чынам, *KINOPORT* стане свайго роду тэлепортам для тых, у каго не атрымліваецца падарожнічаць. Згодна з назвай, праект — выдатная магчымасць для тых, хто любіць і кіно, і геаграфію. Праз падарожжа па фільмах краіны аматары кіно змогуць пазнаёміцца і з яе культурай, нацыянальным кінематографам, даведацца пра штосьці новае, напрыклад, пра фестывальны рух.


Кадр з анімацыйнага відэа «Развітанне з маленькім ваяром».

Акрамя спецыяльна выбраных фільмаў з рэгіёна, аматары кароткаметражак змогуць убачыць і праграмы міжнародных кінафестываляў, створаныя адборшчыкамі фільмаў. Аўтары праекта адзначаюць, што першачарговая задача *KINOPORTа* — дапамагчы гледачу стаць бліжэй да фестывальнай культуры. Арганізатары абяцаюць стварыць не толькі прыемную атмасферу, але і выбудаваць адносіны паміж фестывалем і гледачом, фестывалем і месцам, дзе ён праходзіць.

Новы праект — гэта яшчэ і спроба разбурыць стэрэатыпы, якія склаліся ў аўдыторыі наконт кароткага метра. Арганізатары не збіраюцца навязваць свой пункт гледжання, але прапануюць разабрацца ў плюсах і мінусах кароткаметражнага кіно, у вартасцях такога тыпу фільмаў.

Паказы ладзяцца па суботах у Музеі гісторыі беларускага кіно. На першым паказе фільмаў новай краіны арганізатары будуць прадстаўляць праграму, распавядаць пра тыя фестывалі, з якіх былі выбраныя фільмы для паказу. Таксама гледачы даведаюцца пра стан кароткаметражнага кіно ў розных краінах, а калі інфармацыі будзе недастаткова, каардынатары праекта адкажуць на ўсе пытанні, якія зацікавяць публіку.

Першая праграма прадстаўляе нашу краіну-суседку. У студзені KINOPORT перанясе гледача ў Польшчу, а дакладней — у свет польскай анімацыі O!PLA (незалежны культурны праект, чацвёрты выпуск якога прайшоў амаль у 70 польскіх гарадах вясной 2016 года). У Беларусі *O!PLA* прадстаўлена дзвюма праграмамі: «*O!PLA*, перасякаючы межы #4» і «5 гадоў польскага аніміраванага музычнага відэа».

Першая праграма — гэта зрэз сучаснай польскай анімацыі. Тут прадстаўлены фільмы з вялікім бюджэтам ці тыя, якія створаны прафесійнымі студыямі, незалежнае анімацыйнае кіно, фільмы, якія знялі ва ўстановах адукацыі, а таксама аніміраваныя эпіграмы (вельмі кароткія стужкі), «анімацыйная форма» (эксперыментальная і абстрактная анімацыя) і музычныя відэа.

«5 гадоў польскага аніміраванага музычнага відэа» — гэта фільмы, знятыя з 2011 па 2015 год, якія прапануюць гледачам пазнаёміцца з 22 рэжысёрамі. Кожны з кінематаграфістаў працуе ў рознай тэхніцы, і свае кіно яны стварылі для адмысловых музычных стыляў — не толькі для польскіх, але і замежных выканаўцаў. Трапіць на абедзве праграмы можна 21 і 28 студзеня. Кошты квіткоў вельмі дэмакратычныя — 4 рублі (для школьнікаў, студэнтаў і пенсіянераў працуе акцыя: два квіткі за 4 рублі). Фільмы дэманструюцца на мове арыгінала з рускімі альбо беларускімі субцітрамі.

# Захаваныя скарбы родных паданняў

За апошнія месяцы можна было шмат пачуць пра беларускае кіно. У кінатэатрах паказваюць айчыннае кіно — фантастыку «Розум» і камедыю «*Party-zan* фільм». Стужка «*The road movie*», якую спрадзюсіравала беларуска Вольга Чайкоўская, трапіла на шраг прэстыжных фестываляў. Чакае аматара нашага кінематографа і яшчэ адна навіна: хутка з'явіцца першы беларускамоўны серыял «Заклятыя скарбы».

Ідэю знайсці не так цяжка — каманда кінематографістаў вырашыла экранізаваць традыцыйныя легенды і паданні. На сайце тэлесерыяла можна ўбачыць вельмі таямнічае і прывабнае апісанне. Стваральнікі «Заклятых скарбаў» папярэджваюць, што часам старажытныя легенды, якія, здавалася б, даўно забытыя, могуць апынуцца не такімі і старажытнымі. Тое ж самае і з казачнымі істотамі: усё можа ператварыцца ў рэальнасць. Серыял распавядзе гледачу пра тое, што можа адбыцца з чалавекам, які не паслухаўся сваіх продкаў і патрывожыў тое, «што не павінна было прачнуцца». Фантастычнага тут павінна быць шмат, пра гэта сведчыць і лозунг серыяла: «Угладаючыся ў бездань, не забывай: магчыма, і бездань угледаецца ў цябе».

«Заклятыя скарбы» здымае прадзюсар і рэжысёр Серж Аўсяннік, які доўгі час працаваў на тэлебачанні (дарэчы, ён з'яўляецца і аўтарам ідэі). Акрамя Аўсянніка, над серыялам працуюць і іншыя прафесіяналы кіно, нягледзячы на тое, што праект трымаецца на энтузіязме стваральнікаў. У здымачнай камандзе зараз 10 чалавек, сярод іх — сцэнарысты, аператары, гукааператары. Прыкладна столькі ж будзе і акцёраў. Згоду на здымкі ўжо далі Васіль Бойдак (акцёр здымаўся ў серыялах «Дзяржаўная мяжа», «Алхімік» і інш.) і Алеся Грыбок (вядомая айчыннаму гледачу па ролях у многіх серыялах і фільме «Вышэй за неба»). Рэжысёр адзначае, што шмат рэзюмэ прыходзіць з Расіі і Украіны.

Першы беларускі інтэрнэт-серыял здымуць у жанры трылера: у 2015 годзе рэжысёр з сябрамі вырашылі экранізаваць кнігу «Заклятыя скарбы» (гэта зборнік беларускіх паданняў — жахлівых, цікавых і самабытных). Серж Аўсяннік узгадвае, што чытаў гэтую кнігу яшчэ ў дзяцінстве і памятае нават ілюстрацыі. Таму працаваць над серыялам стала цікава, да таго ж крыніцай натхнення для кінематаграфіста стала вядомая экранізацыя «Дзікага палявання караля Стаха» Уладзіміра Караткевіча, знятая Валерыем Рубінчыкам.

Серыял здымаецца без прадзюсарскай дапамогі, без дзяржаўнай падтрымкі. Грошы часткова сабралі з дапамогай краўдфандынгу, дапамагалі і сябры, але ўкладалі і ўласныя сродкі (дарэчы, каб зняць адну 12-хвілінную сэрыю, трэба выдаткаваць 10 тысяч долараў). Вельмі дорага абыходзіцца абсталяванне («Заклятыя скарбы» здымаюць выключна на прафесійную тэхніку). Рэжысёр адзначае, што ўся здымачная група, у тым ліку і акцёры, працуюць амаль задарма. Магчыма, пагадзіліся з-за смеласці эксперымента: «Заклятыя скарбы» ствараюцца ў першую чаргу для інтэрнэт-аўдыторыі. Паглядзець серыял можна будзе на сайце праекта ці падпісаўшыся на адмысловы канал, тады кожную новую серыю будуць дасылаць.

Галоўнай «фішкай» серыяла стане беларуская мова. Рэжысёр лічыць, што толькі па-беларуску можна перадаць таямніцу нашых народных паданняў: «...на іншай мове проста немагчыма перадаць усю прыгажосць, таямнічасць, жахлівасць нашага фальклору». Але плануецца агучыць «Заклятыя скарбы» на рускай і англійскай мовах, сарыентаваць серыял і на замежную аўдыторыю.

Плануецца зняць некалькі сезонаў серыяла (зараз здымаецца першы, у якім будзе 8 серый). Па задуме кінематографістаў, серыял можна будзе глядзець з любой серыі: яны не будуць сэнсава звязаныя. Першыя серыі «Заклятых скарбаў» з'явяцца ўжо вясной.

**Матэрыялы паласы падрыхтавала Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

ВыДАТна

# МУЗЫЧНЫЯ ПТУШКІ ЛЕАНІДА ЗАХЛЕЎНАГА

**Яго песнямі Беларусь музычная ўзбагацілася: іх можна пачуць і зараз на буйных канцэртах, з экранаў тэлевізараў. Музыку гэтага кампазітара мы памятаем і па фільмах. Няспынны Леанід Захлеўны адзначыў сваё 70-годдзе.**

Немагчыма паверыць у тое, што калісьці музыкай Захлеўнага займацца прымушалі: пачынаў ён з музычнай школы, куды пайшоў па бацькоўскім загадзе. Кожны дзень пасля заняткаў будучы народны артыст павінен быў адыграць гадзіну на баяне. Прычым заводзіўся будзільнік, а калі заняткі заканчваліся і час сыходзіў, хлопчых кідаў баян і бег да сяброў...



Леанід Захлеўны.

Сярод яго выкладчыкаў потым былі легенды беларускай кампазітарскай школы: Глебаў, Алоўнікаў. Яны сталі не толькі яго кіраўнікамі, але і духоўнымі настаўнікамі — перадалі Захлеўнаму музычную эстэтыку, якую кампазітар захоўвае і сёння. Яшчэ тады, у час студэнцтва, ён пачаў пісаць песні, якія выканалі Віктар Вуячыч і Яраслаў Еўдакімаў.

Больш за 10 гадоў Захлеўны працаваў музычным рэдактарам на кінастудыі «Беларусьфільм». За час яго працы створаны мелодыі да дзясяткаў дакументальных, анімацыйных, мастацкіх кінастужак (сярод іх «Песня пра зубра», «Светлячок і Расінка», «Казка пра вясёлага клоўна»). Але мы ведаем і таго Захлеўнага, што стаў бацькам ансамбля «Бяседа», якім кіруе ўжо чвэрць стагоддзя. Калектыў быў на гастролях у дзясятках краін, аб'ездзіў усю Беларусь.

Творы Леаніда Захлеўнага маюць у сваім рэпертуары многія артысты: Якаў Навуменка, ансамбль «Сябры», Іосіф Кабзон, салісты беларускага опернага тэатра Алена Сала і Уладзімір Пятроў, эстрадныя выканаўцы. Мы ведаем яго знакамітую калыханку, песні «Азёры дабрыні», «Зямля мая», цыкл твораў «Памяць». Але сярод самых папулярных кампазіцый — кантаты «Вянок» і «Муха-Цакатуха», харавыя цыклы, сімфоніі ды рамансы на словы Максіма Багдановіча і Уладзіміра Карызны.

Леанід Захлеўны змог не толькі папулярызаваць народныя творы, але і звярнуўся да сур'ёзнай сімфанічнай музыкі: усё ж кампазітар выхаваны на фальклорнай традыцыі, але ведае, што такое меладызм, лірычнасць і моц акадэмічных твораў.

Таленавітыя працы Захлеўнага, наогул яго творчасць адзначаліся шматлікімі ўзнагародамі. Кампазітар з'яўляецца лаўрэатам Дзяржаўнай прэміі Беларусі, спецыяльнай прэміі Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, узнагароджаны срэбным медалём Аляксандрава і ордэнам Францыска Скарыны. Паслухаць яго вядомыя творы, якія «выляталі з душы кампазітара нібы птушкі», і павіншаваць юбіляра можна будзе 27 студзеня ў канцэртнай зале «Мінск».

**Маргарыта ДЗЯХЦЯР**

# Вечар прэм'ер з Леонам Гурвічам

**Імёны беларускіх музыкантаў усё часцей гучаць у знакамітых ва ўсім свеце канцэртных залах. Публіка з захапленнем сустракае іх талент і чакае выступленняў. Леона Гурвіча ведаюць прыхільнікі і джаза, і класічнай музыкі. Выпускнік Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі ўжо больш за 15 год жыве і працуе ў Германіі, але не забывае пра беларускага слухача: 28 студзеня ён выступіць у Беларускай дзяржаўнай філармоніі.**

Пасля Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Леон Гурвіч вучыўся ў Гамбургскай вышэйшай школе музыкі. У шматлікіх прызнаных майстроў браў урокі дырыжыравання. З 2004 года гэтую дысцыпліну выкладае ў Гамбургскай кансерваторыі імя І. Брамса, з поспехам выступае як джазавы піяніст і кампазітар.



Леон Гурвіч.

Яшчэ падчас вучобы ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі Гурвіч сабраў калектыў *Leon Gurvitch Jazz-Project*, з якім аб'ехаў мноства краін. Леон выступаў у ролі музычнага дырэктара пастаноўкі *«Les Enfants Terribles»*, аўтар якой — знакаміты Філіп Глас. Гурвіч напісаў каля трохсот музычных твораў: камерная, вакальная, харавая і аркестравая музыка, саўндтрэк да фільма *«Death Game»* аскараноснага прадзюсара Менахема Голана, арыгінальныя джазавыя кампазіцыі і новыя аранжыроўкі джазавых стандартаў. У 2004 годзе ў Леона Гурвіча выйшаў сольны альбом *«Remember me»*. У 2015-м музыкант намініраваны на *HAMBURG Music Award 2015* у катэгорыі «Музыкант года».

Леон Гурвіч ужо знаёмы беларускай публіцы: у верасні мінулага года на сцэне Рэспубліканскага Палаца культуры прафсаюзаў музыкант прадставіў джазавы праект «Амерыканскія майстры». На гэты раз, 28 студзеня, Леон Гурвіч выступіць на сцэне Вялікай залы Белдзяржфілармоніі разам з Дзяржаўным камерным аркестрам Рэспублікі Беларусь. Прычым не толькі ў якасці саліста, але і дырыжора, кампазітара і аранжыроўшчыка. Акрамя твораў Гайдна, Шастаковіча і Шнітке, прагучаць два сачыненні Гурвіча, якія беларуская публіка пачуе ўпершыню: «Пяць танцаў у старадаўнім стылі» для струннага аркестра і *«Tangoala Russe»*. Таксама адбудзецца сусветная прэм'ера твора *«Conanima»*.

«Мая музыка мае свае карані ў класіцы. Таксама ўдзельнічаюць рускі фальклор, усходнія матывы, лацінаамерыканскія рытмы, джаз і *World Music*», — гаворыць Леон Гурвіч. Ён адзначае, што на творчасць паўплывала таксама музыка Стравінскага, Равэля, Скрабіна, Шастаковіча, Бернстайна і Брубека.

Творы Леона Гурвіча гучалі ў знакамітым *Kennedy Center for the Performing Arts* у Вашынгтоне (ЗША), *Palais des Beaux-Arts* у Брусэлі (Бельгія), Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі імя П. І. Чайкоўскага. Сёлета, у сакавіку, чакаецца сольны канцэрт Леона Гурвіча ў знакамітай зале *Carnegie Hall* у Нью-Ёрку, дзе публіка стане сведкай сусветнай прэм'еры фартэпіянных твораў кампазітара.

**Юлія КАРДАШ**

## Класічнае

**20 студзеня ў канцэртнай зале «Верхні горад» выступіць піяніст Цімур Сергіеня**

Музыкант працягвае цыкл канцэртаў, прысвечаных 40-годдзю сваёй канцэртнай дзейнасці. А пачаў яе беларускі піяніст, які цяпер жыве і працуе ў Бельгіі, яшчэ ў маленстве: першы публічны канцэрт яго адбыўся ў чатырохгадовым узросце, а як саліст ён выйшаў на сцэну ў сем гадоў, каб сыграць разам з Мінскім камерным аркестрам. Яго называлі вундэркіндам, а ён не пераставаў здзіўляць: юны музыкант стаў аўтарам сур'ёзнага твора «Хатынская балада» і набыў вядомасць у СССР. І не толькі: пра яго быў зняты фільм «Юны кампазітар», які паказалі ў шмат якіх краінах свету і які нават атрымаў Гран-пры кінафестывалю ў Мілане ў 1982 годзе. Цімур вучыўся ў цудоўных музыкантаў, выкладчыкаў Беларускай акадэміі музыкі і Маскоўскай дзяржаўнай кансерваторыі. Сам выкладаў спецыяльнае фартэпіяна ў Беларускай дзяржаўнай акадэміі музыкі і рэспубліканскім музычным ліцэі, нават стаў аўтарам навуковай працы «Псіхафізічная падрыхтоўка музыканта-выканаўцы да актыўнага канцэртнага рэжыму». Дзякуючы багатай музычнай кар'еры Цімур Сергіеня выступаў з вядомымі аркестрамі і дырыжорамі. За сваю актыўную канцэртную дзейнасць піяніст даў больш за 2000 канцэртаў у розных краінах свету. З 2013 года Цімур Сергіеня — прафесар па класе спецыяльнага фартэпіяна ў Вышэйшай школе мастацтваў *«LUCA School of Arts»* (Бельгія). А з 2015 года ён пастаянна запрошаны прафесар у Летняй Музычнай Акадэміі імя Тэадора Лешэціцкага (Аўстрыя).

Падчас канцэрта 20 студзеня ў родным Мінску піяніст выканае творы Франца Шуберта.

## Камернае

**Сучасны беларускі кампазітар Галіна Гарэлава апынулася пад апекай Рагнеды**

Яе творы гучаць у старажытным горадзе Заслаўе. З ініцыятывы народнага артыста Беларусі Міхаіла Фінберга тут пачалася серыя фестываляў і святаў камернай музыкі, якія потым прыйшлі ў самыя розныя малыя гарады Беларусі. Але што найбольш карысна: тут разам са знакамітымі музыкантамі Нацыянальнага канцэртнага аркестра давалі магчымасць выступіць дзецям Міншчыны падчас конкурсаў на лепшае выкананне сачыненняў беларускіх кампазітараў. Сёлета разынка заслаўскіх музычных сустрэч — аўтарскі канцэрт кампазітара Галіны Гарэлавай, якая з'яўляецца не толькі адной з вядучых у нашым музычным свеце, але і прадстаўніком беларускай культуры далёка па-за межамі нашай краіны. Творы кампазітара прагучаць падчас аўтарскага канцэрта, а таксама прысвечаны Гарэлавай канцэрт «Пад апекай Рагнеды». Жаночы творчы партрэт будзе намаляваны музычнымі фарбамі ў тым асяродку, які спрадвеку квітнеў пад апекай легендарнай жанчыны — Рагнеды, якая шмат у чым вызначыла пачатак і распаўсюджванне хрысціянства на Беларусі. Невыпадкова гэтая сустрэча ладзіцца ў Хрышчэнскія святы. Упершыню ў горадзе ў выкананні розных калектываў Нацыянальнага акадэмічнага канцэртнага аркестра прагучаць многія, у тым ліку малавядомыя, сачыненні Галіны Гарэлавай. Але такія праграмы вартыя таго, каб гучаць і ў сталічных канцэртных залах, і па ўсёй Беларусі: сучасная музыка стварае музычны вобраз нашай краіны, замацоўвае яго ў гуках, пакідае нашчадкам. Але ім, каб ведаць, чым валодаюць, патрэбна найперш магчымасць пачуць.

## Міжнароднае

**Польская музыка гучыць у гродзенскім Новым замку**

Своеасаблівы падарунак да святаў, калі хочацца падоўжыць узнёслы настрой, — канцэрт у зале Новага замка Гродзенскага дзяржаўнага гісторыка-археалагічнага музея, арганізаваны пры падтрымцы Польскага інстытута ў Мінску 20 студзеня. Дзякуючы польскаму боку госцем горада стаў аркестр Ломжынскай камернай філармоніі імя В. Лютаслаўскага.

У невялікім польскім горадзе Ломжа (з насельніцтвам крыху больш за 60 000) свая камерная філармонія з'явілася яшчэ напрыканцы 70-х гадоў мінулага стагоддзя (яна стваралася з камернага аркестра). З таго часу аркестр актыўна канцэртаваў у сваёй краіне і за мяжой, падрыхтаваў і запісаў дзясятак альбомаў, тры з якіх адзначаны найвышэйшай музычнай узнагародай Польшчы «Фрыдэрык». Музыка польскіх кампазітараў (Ф. Шапэна, Х. Вяняўскага, В. Кіляра) склала аснову канцэрта, падрыхтаванага польскімі музыкантамі разам з мастацкім кіраўніком і дырыжорам аркестра Янам Мілашам Зажыцкім, прафесарам Музычнага ўніверсітэта Фрыдэрыка Шапэна ў Варшаве. Але перадаць дух польскай музыкі дапамагаюць салісты. Сапрана Катажына Жымска-Дзіяла — выпускніца Акадэміі музыкі імя Ф. Шапэна ў Варшаве і Універсітэта музыкі ў Жэневе, лаўрэат міжнародных конкурсаў. Тэнар Рафал Бартміньскі — выпускнік вакальна-акцёрскага факультэта імя К. Шыманоўскага ў Катавіцах, лаўрэат міжнародных конкурсаў, шмат выступае на оперных сцэнах Польшчы і іншых краін. Спявак вядомы выкананнем сучаснай музыкі, напрыклад, Кшыштафа Пендарэцкага. Але актыўна папулярызуе класіку, прынамсі, музыку Станіслава Манюшкі, які з'яўляецца той асобай, што аб'ядноўвае культуру Польшчы і Беларусі.

# «...І РАСКРЫЛІСЯ НЯБЁСЫ»

## Момант натхнення: жыццёвага і творчага

**Хрышчэнне Гасподняе — вялікае свята, якое нагадвае: у кожнага чалавека ёсць магчымасць ачысціць душу, нібыта нарадзіцца зноў, каб жыць у згодзе са светам і самім сабой. У мастацкай галерэі «Універсітэт Культуры» да свята прэзентавалі выстаўку «Хрышчэнне Гасподняе», якая складаецца з фотаработ Алега Дыбава і твораў у тэхніцы лапікавага шыцця сясцёр Веры Блінцовай і Любові Кірылавай.**

На адкрыцці праекта наведвальнікі выстаўкі разглядалі работы пад канцэрт духоўнай музыкі ў выкананні царкоўнага хору Усіхсвяцкага прыхода Мінска.

Бывае так, што бачыш творы, і ад іх становіцца лягчэй, яны нібы ачышчаюць цябе, ратуючы ад злобы, незадаволенасці. Чалавек мае патрэбу ў тым, каб яму нагадалі, што паўсядзённыя клопаты — толькі невялічкая частка існавання, а жыццё гістарычна грунтавалася на духоўных каштоўнасцях. На фотаработах Алега Дыбава мы бачым людзей, якія прысвяцілі сябе веры альбо якія толькі пачынаюць шлях да Бога. Фотамастак любіць сваіх герояў: зразумела, што яго работы ствараюцца імгненна, але ёсць адчуванне, што аўтар прынцыпова чакае моманту, калі чалавек знаходзіцца ў стане адухоўленасці. Дзеці на фотаздымках не падобныя да тых маленькіх чалавечкаў, якіх мы бачым у гарадской прасторы: яны ўжо дарослыя, сумленныя, і не па выглядзе, а хутчэй па сур'ёзнасці, душэўным выбары. Многія творы фотамастака паказваюць змяненне эмацыянальнага настрою людзей, якія вырашылі прыняць хрышчэнне: многія спачатку хвалююцца, асабліва тыя, хто вырашыў акунуцца ў купель упершыню, а пасля адчуваюць прыліў энергіі, адсутнасць боязі да холаду. Усё ж такі духоўная сіла значна мацней за знешнія фактары.



*Хрышчэнне вачыма фотамастака Алега Дыбава.*

Як і душэўная цеплыня мастачак Веры Блінцовай і Любові Кірылавай: іх творы ўражваюць прыгажосцю, багаццем колераў і разнастайнасцю бліскучых адценняў. Мастачкі ствараюць творы на праваслаўную тэматыку ў стылі тэкстыльнай графікі. Госці выстаўкі былі здзіўлены, як можна настолькі тонка выконваць кожную дэталь, хаваючы швы так, быццам бы ўсе лапікі намаляваныя альбо якасна склееныя. Але ж кожны элемент твора абводзіцца ніткамі: работа атрымліваецца больш якаснай. Раней такую тэхніку выкарыстоўвалі для ўпрыгожвання сцен палацаў. Мастачкі адлюстроўваюць храмы, кветкі і птушак, ствараючы іх аб'ёмнымі, нібыта рэальнымі. У кампазіцыях выкарыстоўваюць разнастайныя па фактуры тэкстыльныя матэрыялы, гуляюць імі, ствараючы так званую тэкстыльную мазаіку, альбо, як кажуць мастацтвазнаўцы, тканевыя вітражы: удала камбінуюць аксаміт і паркаль, пакрысе дадаючы металічныя элементы. У дзяцінстве сёстры не планавалі станавіцца мастачкамі, а сёння не ведаюць, як пражыць хоць дзень без творчасці: больш як трыццаць год развіваюць сваю ўнікальную тэхніку. Бывае, што мастаку патрэбна натхненне, каб ствараць, а для іх натхненне — мастацтва і вера. Сёстры адзначаюць, што ў работах жадаюць паказаць святло і радасць, якія так складана ўбачыць у сучасным свеце. Творамі яны нясуць гармонію і дабрыню ў жыццё.



*Любоў Кірылава «Горад залаты», 2014 г.*

Падчас адкрыцця экспазіцыі са святам гасцей павіншаваў старшыня пастаяннай камісіі па адукацыі, культуры і навуцы Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь Ігар Марзалюк:

— Хрысціянін ведае, што свет божы ёсць дасканалы і гарманічны, што зла ў свеце роўна столькі, колькі мы, дасканалыя людзі, прыносім яго ў жыццё, і столькі дабра, наколькі мы з вамі добрыя. Ёсць два падыходы да сучаснага мастацтва: адзін сцвярджае, што свет абсурдны, што ў ім няма розуму, гармоніі. Але катэгорыі, што існуюць у душы чалавека, перакрываюць меркаванні такіх людзей. Таму другі падыход асвечаны вялікай традыцыяй, якая на нашых землях зазяла з Хрышчэннем. Гэта традыцыя кажа, што мы вечныя духоўна, мы паяднаныя з творцам душой. Таму талент мастака ў тым, каб адлюстроўваць хараство вялікага свету. Гэтая выстаўка — радасць, якая стварае ўнутраны свет чалавека.

**Вікторыя АСКЕРА**

## *Культурны ракурс*




**У цэнтры Карэліч устаноўлены помнік беларускаму і польскаму паэту і фалькларысту Яну Чачоту (1796 — 1847), які нарадзіўся на Навагрудчыне, у вёсцы Малюшычы (цяпер Карэліцкі раён). Бацька будучага паэта ў канцы XVIII стагоддзя арандаваў тут фальварак. Вучыўся Ян Чачот у Навагрудскай дамініканскай школе, дзе пазнаёміўся і на ўсё жыццё пасябраваў з Адамам Міцкевічам. У 1815 годзе, пасля заканчэння школы, сябры разам паступілі вучыцца ў Віленскі ўніверсітэт. Але, на жаль, праз год Яну Чачоту давялося пакінуць вучобу і ўладкавацца на службу ў канцылярыю князёў Радзівілаў.**

**Ян Чачот быў актыўным удзельнікам Таварыства філаматаў і філарэтаў, за што яго арыштавалі, кінулі ў турму, а потым саслалі на Урал, у крэпасць Кізіл. Дзесяць доўгіх гадоў паэт правёў у выгнанні. Пасля вяртання на радзіму працаваў бібліятэкарам у шчорсаўскай бібліятэцы графа Храптовіча.**

**З 1837 па 1846 год фалькларыст сабраў і выдаў у Вільні шэсць зборнікаў «Вясковых песень з-над Нёмана і Дзвіны», куды ўвайшло каля 1000 беларускіх народных песень. Літаратурная творчасць Яна Чачота звязана з дзейнасцю філаматаў. У аснову яго балад пакладзены мясцовыя паданні і народныя казкі. Адам Міцкевіч высока цаніў беларускія вершы-песні свайго сябра і лічыў, што ў іх лёгкасць ды паэтычны агонь.**

**У 1847 годзе Ян Чачот паехаў на лячэнне ў Друскенікі, дзе яго жыццё і абарвалася. Пахавалі нашага земляка ў вёсцы Ротніца каля Друскенікаў.**

**Помнік Яну Чачоту ў Карэлічах быў устаноўлены ў 1996 годзе да 200-годдзя з дня яго нараджэння. На другім плане фотаздымка — Петрапаўлаўская царква, помнік архітэктуры XIX ст. Мураваны будынак храма з'явіўся ў 1866 годзе, першае ж упамінанне пра карэліцкую царкву знойдзена ў інвентары маёнтка Карэлічы, які склалі яшчэ ў 1594 годзе.**

**Святлана КОШУР**

**Да ўвагі чытачоў! «ЛіМ» і ў новым годзе працягвае конкурс «Культурны ракурс». Умовы творчага спаборніцтва змешчаны ў мінулым нумары нашай газеты. Чакаем цікавых і крэатыўных фотаздымкаў з арыгінальным тлумачэннем.**

ЛіМ
Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў

Заснавальнікі:
Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, грамадскае аб'яднанне «Саюз пісьменнікаў Беларусі», рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"»

Галоўны рэдактар
Ларыса Іванаўна ЦІМОШЫК



Адрас рэдакцыі:
Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
E-mail: info@zvyazda.minsk.by

Адрас для карэспандэнцыі:
220013, Мінск, пр. Незалежнасці, 77
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у інтэрнэце: www.main.lim.by

Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 292-20-51
намеснік галоўнага рэдактара — 292-43-03
адказны сакратар — 292-20-51
аддзел крытыкі і бібліяграфіі — 292-56-53
аддзел прозы і паэзіі — 292-56-53
аддзел мастацтва — 292-20-51
аддзел «Кніжны свет» — 292-56-53
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 292-20-51

Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.

Падпісныя індэксы:
63856 — індывідуальны;
63815 — індывідуальны льготны для настаўнікаў;
638562 — ведамасны;
63880 — ведамасны льготны.

Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі № 7 ад 10.12.2012, выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь.

Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом "Звязда"».
Дырэктар — галоўны рэдактар
Павел Якаўлевіч СУХАРУКАЎ

Тэхнічны рэдактар, камп'ютарная вёрстка:
А. В. Бізункова

Камп'ютарны набор:
А. І. Грамыка

Стыльрэдактар:
Н. А. Святлова

Нумар падпісаны ў друк
19.01.2017 у 11.00

Ум. друк. арк. 3,72

Наклад — 1637.

Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства
«Выдавецтва «Беларускі Дом друку»
ЛП № 02330/106 ад 30.04.2004
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 220013

Заказ — 187

Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12



